

Ніл ГІЛЕВІЧ

# Жніво

Збажына — на ўвесь рост, —
Неабдымнае мора калосся.
І на ўсход да нябёс
І на захад яно разлілося.

Хвалі зранку ўвесь дзень
Між сабой размаўляюць лагодна.
Карабель ім насустрач ідзе —
Мой камбайн самаходны.

Зерне ў бункер патокам цячэ —
Грузавік ад'язджае.
Тут ніколі яшчэ
Не здымалі такога ўраджаю.

Песню вецер нясе —
То дзяўчаты пяюць грамадою
Пра каліну, што ў полі цвіце,
Ды пра светлую долю.

Песня ўдалеч плыве,
Адгукаецца ціш баравая.
Толькі ў нас,
На калгасным жніве,
Песня гэткай бывае.



На полі калгаса імя Молатава Мастоўскага раёна Гродненскай вобласці. Комсамолка-палявод А. Прэдка, брыгадзір, сакратар комсамольскай арганізацыі А. Холад і старшыня калгаса Ф. Арбузаў аглядаюць пасевы.
(Да нарыса «Галоўны напрамак».)

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс
Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.
№ 4. Ліпень, 1953 год.



**Георгі ШЧАРБАТАЎ**

# ГАЛОЎНЫ НАПРАМАК

**Нарыс**

Фота А. Дзітлава.

Летам на світанні ёсць такія цудоўныя хвіліны, што чалавек міжвольна спыняецца паслухаць здзіўляючую цішыню і палюбавацца надыходам ранку. У лёгкай шоўкавай намітцы губляюцца далёкія абрысы лесу. Малочны туман сцелецца над лугамі, што раскінуліся ўсцяж Зяльвянкі. На ўсходзе пакрысе ружавее неба, нейкі час на небакраі гуляюць прыгожыя сонечныя блікі, а потым над зямлёй раптам успыхвае першы промень, і адразу нібы ўсё наваколле загараецца залатым агнём.

Высокі плячысты хлопец у белай лёгкай кашулі, з-пад якой відаць матроская цяльняшка, стаіць на вуліцы і зачаравана ўглядаецца ў ранішнія прасторы. Ён гады два як вярнуўся з Далёкага Усходу, але кожнай такой раніцай яму здаецца, што ён упершыню пасля доўгайростані бачыць родныя далі і захапляецца іх хараством. Вярнуўся ён дадому ў матроскай форме, з медалямі на шырокіх грудзях. Часам на свята ён апрнае дарагі для яго чырвонафлоцкі касцюм і тады становіцца больш рослым, стройным.

Але цяпер не да ўбораў. Ідзе гарачая пара сенакосу. Цяпер галоўнае ў думках — своечасова і добраякасна скасіць і сабраць сотні гектараў лугоў, забяспечыць жывёлу кармамі. Асабліва многа клопатаў яму, Антону Холаду — сакратару пярвічнай комсамольскай арганізацыі калгаса і брыгадзіру трэцяй паляводчай брыгады.

Поўгода назад, калі комсамольцы выбралі яго сваім сакратаром, ён крыху разгубіўся. У яго не было вопыту комсамольскай работы, ён прадбачыў цяжкасці і не ведаў, як іх пераадольваць.

«Як зрабіць жыццё комсамольскай арганізацыі цікавым і змястоўным? — думаў ён. — Як падыйсці да сэрца кожнага комсамольца?»

Ён старанна пачаў чытаць комсамольскую літаратуру, кнігі аб выхаванні моладзі. Чытаючы кнігу М. І. Калініна «Аб комуністычным выхаванні», ён доўга разважаў над такімі словамі: «... чалавек можа быць вельмі адукаваным, культурным, але калі ён кіруе моладдзю з халадком, не ўкладаючы душу ў яе выхаванне і навучанне, то моладзь гэта адразу зразумее. Такога кіраўніка яна любіць не будзе. Затое, калі ты ўкладваеш душу ў работу, імкнешся ўсё зрабіць для таго, каб твая арганізацыя выйшла ў рады перадавых, траціш на гэта сілы, сваю гарачую кроў, у адказ ты несумненна заслужыш любоў моладзі». Ён падкрэсліў гэтае месца ў прамове М. І. Калініна і вырашыў пакласці яго ў аснову ўсёй сваёй дзейнасці. На дапамогу комсамольскаму сакратару прышла партыйная арганізацыя, райком комсамола. Яму параілі, як скласці план работы арганізацыі, як усіх комсамольцаў заахвоціць агульнаграмадскай працай.

Першае выпрабаванне комсамольцам давялося вытрымаць вясной. Тады па прапанове Холада комсамольцы выступілі ініцыятарамі нарыхтоўкі і вывазкі мясцовых угнаенняў. Была створана комсамольска-маладзёжная брыгада пад кіраўніцтвам комсамольца Валянціна Габец. Дружна ўзялася моладзь за працу. За вясну было нарыхтавана больш пятнаццаці тысяч тон торфу пры плане ў адзінаццаць тысяч тон. Комсамольская арганізацыя была ўзнагароджана Ганаровай граматай ЦК ЛКСМБ і пераходным Чырвоным вымпелам Мастоўскага райкома комсамола.

«Але ці ўсё ўжо зроблена?» — думаў сакратар комсамольскай арганізацыі і вырашыў, што яшчэ не ўсё. Нядаўна на комсамольскім сходзе было абмеркавана пытанне аб касьбе. Стварылі комсамольска-маладзёжную брыгаду касцоў. Але не ўсе комсамольцы з ахвотай узяліся за працу. Выйшаў, напрыклад, у першы дзень на касьбу Мікола Прэдка, дзеўбануў касой у купіну, і каса зламалася. Кінуў кассё — і больш не выходзіць на луг. «Проста бяда з ім, — думае Холад. — На працу не выходзіць, комсамольскіх сходаў не наведвае. І што з ім рабіць?»

З такімі думкамі Антон Холад накіроўваецца ў канцылярыю. Жыве ён на ўскраі вёскі і заўсёды бачыць, як рана прачынаюцца калгаснікі і ідуць на працу. Часам да яго далятаюць словы:

— Гаспадыня, хутчэй давай снеданне, брыгадзір пайшоў ужо...

Яму радасна ўсведамляць, што калгаснікі бяруць з яго прыклад, імкнуцца нідзе не адставаць.

Амаль кожнай раніцы ён сустракае Максіма Плытніка, вартавога калгаснага цагельнага завода. Гэта невысокага росту яшчэ дзябёлы стары, шэрыя вочы яго свецяцца разумна і дапытліва. Вось і сёння вартаўнік вітаецца з брыгадзірам і пачынае гаворку:

— Куды сёння, Дзямянавіч, людзей павядзеш?

— Трэба ў Ясені, там яшчэ не ўсё скасілі.

— Добра косяць! — нібы з зайздрасцю, нібы з пахвалою гаворыць дзед.

— Добра, ды не ўсе... — адказвае Холад.

— Не разумееш яшчэ, браткa! — многазначна заўважае Плыт-

На здымку ўверсе: **Антон Холад раіцца з групай комуністаў па складанню плана работы комсамольскай арганізацыі калгаса.** (Злева направа): **старшыня калгаса Ф. Арбузаў, А. Холад, сакратар Мастоўскага РК ЛКСМБ М. Іоскевіч і сакратар партарганізацыі Ц. Хрушчановіч.**

нік. — Каб паспыталі майго колішняга хлеба ці пабадзяліся па свеце так, як я некалі, дык адчулі-б, якое гэта шчасце—вольная праца.

Холад ведае, аб якім «хлебе» і аб якім «бадзянні» ўспамінае стары Плытнік. Некалі, яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі, ён спрабаваў шукаць шчасця ў Амерыцы, некалькі год прабадзяўся там і зноў «гол, як сакол», вярнуўся на радзіму. У сакратара камсамольскай арганізацыі нараджаецца думка: «А што, калі наладзіць сустрэчу Максіма Плытніка з моладдзю? Няхай паслухаюць пра яго лёс. Трэба параіцца з сакратаром партыйнай арганізацыі!»

У прасторнай канцылярыі ўжо сядзеў старшыня калгаса Фёдар Захаравіч Арбузаў — вопытны ў гаспадарцы і паважаны тут чалавек — і брыгадзіры. Каля канцылярыі збіраліся касцы. Ішла гутарка з брыгадзірамі, якія выдавалі нарады на працу. Холад заўважыў Міколу Прэдку і сказаў:

— Сёння, Мікола, паедзеш па сена ў Ясені.

— Сам вазі сена! — бліснуў цёмнашэрымі вачыма Прэдка і пайшоў дахаты.

Брыгадзір здзівіўся такому адказу, але спрачацца не стаў. Касцы рушылі ў дарогу, і ён далучыўся да іх.

Хораша ў чэрвені на сенажацях! Тысячамі сонцаў зіхаціць раса. Высокая шаўкавістая трава прыемна халодзіць ногі. Паветра напоўнена пахам медуніцы. Звініць па каменнях хуткая і чыстая, як сляза, Зяльвянка, клічучы да сябе касцоў. А яны, маладыя, дужыя, на поўную шыр разгарнулі свае плечы, дружна кладуць пракос за пракосам. Наперадзе камсамольска-маладзёжнай брыгады ідзе Холад. Ён шырока бярэ пракос, косіць умела і лёгка. «Шкада, што тут нельга касілку пусціць, — думае ён. — Не так было-б...» А за ім, амаль не адстаючы, ідзе камсамолец Валянцін Габец.

Пад поўдзень, калі трава крыху падсохла, на луг прышлі калгасніцы. Усюды запярэсцілі іх рознакаляровыя хусцінкі. Сярод калгасніц было многа камсамолак. Яны працавалі ўвішна. На суседнія ўчасткі прыехалі калгаснікі па сена, але Холад позіркам не знайшоў сярод іх Міколы Прэдкі. «Няўжо лынды б'е?» — мільганула ў яго думка.

Вечарам Антон Холад зайшоў да сакратара партыйнай арганізацыі Хрушчановіча. Дырэктар сямігадовай школы, выкладчык матэматыкі Цэзар Эдмундавіч Хрушчановіч карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод калгаснікаў. Ён наведвае калгасныя сходы і пасяджэнні праўлення, часта чытае сярод насельніцтва лекцыі, даклады на рознастайныя тэмы. Нярэдка можна бачыць, як сяляне ідуць да дырэктара, каб параіцца, куды паслаць далей вучыцца сына ці дачку, запрашаюць яго на вяселле, хрэсьбіны ці іншыя хатнія святы. Комуністы прыходзяць падзяліцца з ім сваімі поспехамі і сваімі няўдачамі.

Але не толькі словам — справай зацвердзіў свой аўтарытэт Цэзар Эдмундавіч. На прышкольным участку разам з вучнямі ён узгадаваў і прышчапіў сотні дзічак. У апошнія гады прышчэпы з школьнага саду паявіліся на сядзібах многіх калгаснікаў.

Сакратар партыйнай арганізацыі ветліва сустрэў Холада. Ён пацікавіўся справамі яго брыгады, працай камсамольцаў. Антон расказаў, што яго брыгада, як і на сяўбе, зараз трымае першынства ў калгасе, што большасць калгаснікаў працуе шчыра і добрасумленна.

— Ды ёсць і такія, што зусім не выходзяць на працу. Нават камсамольцы... — і Холад загаварыў аб паводзінах Міколы Прэдкі.

— Чаго-ж ён хоча, гэты хлопец?.. Да чаго ў яго схільнасць?— пацікавіўся Хрушчановіч.

Антон Холад здзіўлена паглядзеў на Цэзара Эдмундавіча. А той працягваў:

— Трэба пабываць у яго дома, пабачыць, чым ён займаецца...

— Чым ён займаецца?.. — перабіў Холад. — Кажуць, цэлымі днямі сядзіць з Сінкевічам і рамантуе яго матацыкл.

— Вось бачыш, значыць, любіць тэхніку... А з Сінкевічам я пагутару, ды можна і «Баявы лісток» выпусціць, пакрытыкаваць яго за тое, што ў гарачы час людзей ад працы адрывае.

Цэзар Эдмундавіч горача падтрымаў ідэю камсамольскага сакратара: наладзіць сустрэчу моладзі з Максімам Плытнікам.

На наступны дзень у трэцяй брыгадзе з'явіўся «Баявы лісток». Адказныя за выпуск «Баявых лісткоў» — камсамольцы Аляксей Плытнік і Зіна Сурмач. «Баявы лісток» зацікавіў калгаснікаў. У ім паказваліся поспехі калгаснікаў на касьбе, на праполцы. Была заметка і аб «матацыклістах», дзе крытыкаваліся камсамольцы — настаўнік фізкультуры Аляксандр Сінкевіч і Мікола Прэдка. Але «Баявы лісток», як заўважыў Антон, здаецца, не крануў Прэдкі. Тады сакратар вырашыў пайсці да Міколы.

Каля стала, на якім ляжалі лямпы радыёпрыёмніка, катушкі, розныя іншыя дэталі, сядзеў Прэдка. Ён быў захоплены працай і нават не заўважыў, калі зайшоў Холад. Антон прывітаўся і прысеў каля стала. Прэдка незадаволена паморшчыўся.

— Што ты майструеш, Мікола? — пачаў гутарку Холад.

— Не бачыш хіба, — не зусім прыязна адказаў хлопец, — радыёпрыёмнік.

— І атрымоўваецца?

— Праз дзень-два загаворыць, — з гордасцю вымавіў «майстар». — Вось і батарэі падрыхтаваны і гукаўзмацніцель.

— А хто табе дапамагае?

— Настаўнік фізікі... А шмат з часопісаў вычытаў, — і ён паказаў часопіс «Тэхніка моладзі».

Перад сакратаром камсамольскай арганізацыі сядзеў цікаўны хлопец, аматар тэхнікі, але крыху адасоблены, нейкі замкнуты.

— Добрую справу робіш, — пахваліў Холад. — Трэба было да хлопцаў звярнуцца, яны-б дапамаглі табе, — і, памаўчаўшы, дадаў: — З-за гэтага, мабыць, і на працу няма часу хадзіць.

Прэдка маўчаў. Ён толькі яшчэ больш старанна ўзяўся за пераматванне катушкі.

— А на аўтамашыне працаваўбы? — Холад вырашыў выпрабаваць яшчэ адзін сродак.

У цёмных вачах хлопца бліснулі іскаркі, і ён адразу з нейкім запалам адказаў:

— Хоць дзень і ноч!

Холад уздыхнуў. Ён зразумеў, што знайшоў ключ да сэрца гэтага юнака.

— Трэба будзе цябе на курсы шофераў паслаць, — сказаў сакратар.

Пасля размовы з Прэдкам Антон зайшоў яшчэ да Максіма Плытніка.

... Неяк у нядзелю каля калгаснага клуба сабралася многа моладзі. На лаўках, на мураве пад вішнямі сядзелі юнакі і дзяўчаты, спявалі песні, жартавалі. Холад папрасіў Максіма Плытніка расказаць моладзі аб тым, што ён абяцаў яму.

— Давялося мне, дзеткі, пабадзяцца па свеце, — сказаў Плытнік, — але шчасце сваё я знайшоў на старасці год у калгасе. Дала гэтае шчасце нам наша дарагая совецкая ўлада...

І Максім Плытнік расказаў, як некалі, яшчэ пры цару, яго бацька Васіль меў на пяцёх сыноў тры гектары зямлі. Дзе там было разгарнуцца! Раслі сыны ды ішлі батрачыць — хто да пана Паплаўскага, хто да пана Вышпіка. Амаль круглы год гнуў спіну на паноў і іх бацька, а есці ўсёроўна не было чаго.

Калі ажаніўся Максім, бацька яму нічога не мог выдзеліць з гаспадаркі. Тады ён і вырашыў паехаць пашукаць шчасця ў Амерыцы...

— Ну, прыплылі мы ў Нью-Йорк, а тут да нас на параход цэлая зграя паліцэйскіх.Ператрэслі ўсе нашыя рэчы, запыталі, колькі кожны грошай мае. Раптам адзін з іх як крыкне на мяне: «Шпіён!» — і кліча на падмогу. Ён тыцкае нейкую фатаграфію і паказвае на мяне: — «Шпіён!» «А каб на вас халера!» — думаю я і кажу ім, што я прыехаў да іх грошы зарабляць, а не шпіёніць. А яны падхапілі мяне і пацягнулі ў паліцэйскі ўчастак. Забралі ўсе мае дакументы, грошы, сфатаграфавалі мяне і пасадзілі ў турму. Сяджу дзень, сяджу два—нібы і забыліся на мяне. На трэці дзень выклікаюць і кажуць: «Выбачайце, памыліліся!» і вяртаюць мне дакументы.

—А грошы? — пытаюся.

— Грошы?.. «А за што мы вас кармілі, за што вы жылі ў нас?» — адказваюць.

Тут адзін нейкі чалавек у цывільным адзенні і кажа:

— Нашто табе грошы? Я заплачу за дарогу і харчаванне, калі паедзеш са мной на працу да фермера.



**У гадавальніку Самуйлавіцкай школы. Звеннявая калгаса імя Молатава З. Мадзік** (крайняя справа) **аглядае прышчэпы, якія вырошчваюць дзеці.**



**Добра працуюць маладыя даяркі калгаса.** На здымку (злева направа): **Ю. Кізь, Е. Шабунька, Е. Плытнік, А. Махнач і В. Грышкевіч.**

— Давайце, — кажу, — мне цяпер усёроўна.

— Значыцца, вас купілі, як раба, дзед Максім? — запытаў Аляксей Плытнік.

— Не ведаў я, дзеткі, што яно так будзе... Ну, едзем праз такія горы ды такія пустэльні... хай ты згары, думаю, куды мяне чэрці гоняць. Ажно на адной станцыі ссадзілі нас і павезлі далей на машынах. Спыніліся мы каля нейкіх пабудоў. Гляджу я — нібы нейкі скотны двор. Ажно і сапраўды! Ферма жывёлагадоўчая аказалася. Сабралі нас, такіх як я, і кажуць, што мы поўгода павінны працаваць бясплатна, бо на нас вельмі выдаткаваліся. «Вось дык трапіў, думаю, ні нерат, ні ўзад, ні ўперад!» Назаўтра па званку паднялі ўсіх. Мне далі заданне кароў даглядаць. Фермер меў семсот пяцьдзесят кароў. Бывала, яшчэ на світанні як пачнеш працу — корму прывязеш, напоіш, пачысціш кароў, дык толькі позна вечарам ледзь жывы прыходзіш у барак. Бяжыш на работу, часам галодны, баішся спазніцца, бо як толькі спознішся на хвіліну, выганяць, возьмуць другога...

Стары бачыў, што моладзь уважліва слухае, і гэта падбадзёрвала яго. Ён расказаў, як пяць год прабадзяўся па Амерыцы ў пошуках шчасця, як працаваў і на заводзе, і на лесараспрацоўках — і ўсюды адно і тое-ж: працоўны народ церпіць вялікія нястачы, усюды можна бачыць тысячы беспрацоўных, галодных і знясіленых людзей.

— У семнаццатым годзе, як я даведаўся, што ў Расіі цара скінулі, паноў ды капіталістаў прагналі, зямлю дзеляць, вырашыў назад падацца. Так, з чым паехаў у Амерыку, з тым і вярнуўся.

Расказ старога моцна ўразіў усіх.

— Вось як жыў Максім Васільевіч, — у канцы гутаркі загаварыў Холад. — Усім нам шчасце дала совецкая ўлада. Паглядзіце, як хутка расце і будуецца наш калгас. Цяпер мы маем вялікія фермы буйнай рагатай жывёлы, свіней, птушак. За два гады пасля ўз'яднання пасадзілі дваццаць чатыры гектары маладога саду, пабудавалі тры канюшні, цагельны завод, свіран, купілі аўтамашыну. Хто бываў на выгане, той бачыў, што там будуюцца вялікія тыповыя кароўнік і цялятнік. У мінулым годзе мы вырасцілі добрыя ўраджаі і атрымалі на кожны працадзень па два кілаграмы хлеба... А якая цудоўная будучыня чакае нас!

Холад бачыў, якім шчасцем гараць вочы юнакоў і дзяўчат, і быў надзвычай усхваляваны. Потым загучалі радасныя песні хора, якім кіравала комсамолка Вера Сінкевіч. І гучала ў гэтых песнях любоў і адданасць совецкай моладзі да сваёй цудоўнай Радзімы, слава яе хараству, яе магутнасці.



**У вольны час моладзь калгаса развучвае новыя песні. Кіруе хорам комсамолка В. Сінкевіч.**

Раніцай наступнага дня Мікола Прэдка адзін з першых прышоў у канцылярыю. Ён, як заўсёды, ціха, адзінока сеў, але на яго смуглявым твары і ў цёмнашэрых вачах было відаць, што хлопец нечым усхваляваны. Праз акно ён уважліва наглядаў за вуліцай, а калі заўважыў Холада, выбег яму насустрач.

— Антон, дай мне працу! — папрасіў ён.

— Добра, паедзеш з шоферам па вугаль, — сказаў Холад і сам сабе ўсміхнуўся.

Набліжаўся дзень комсамольскага сходу, і Антон вырашыў: «Трэба будзе падтрымаць хлопца на сходзе».

На сход комсамольцы запрасілі старшыню калгаса і сакратара партыйнай арганізацыі. Абмяркоўваліся два пытанні: вынікі работы кантрольных комсамольскіх пастоў на жывёлагадоўчых фермах і аб рабоце хаты-чытальні.

Яшчэ вясной на жывёлагадоўчыя фермы былі пасланы комсамольскія кантрольныя пасты. Яны абавязаны былі праверыць работу фермы, выдаткаванне кармоў, догляд жывёлы. Праз некаторы час комсамольскі пост расказаў Холаду аб непарадках на свінаферме. Комсамольцы Алена Кізь, Марыя Засценчык і Мікола Верабей прыкмецілі, што свінням не выдаецца ўстаноўленая норма кармоў. Холад сказаў аб гэтым у праўленні калгаса. Высветлілася, што загадчык фермы рэдка бывае на рабоце, не кантралюе даглядчыц. Праўленне вызваліла яго з гэтай пасады.

Цяпер на сходзе дакладваў комсамольскі кантрольны пост на птушкаферме. Зіна Сурмач і Ліда Мацкевіч уважліва вывучылі работу птушніц. Яны выявілі, што птушніца Тарэза Вэкман не здае ўсіх яек на склад калгаса. Комсамольскі пост на ферме буйнай рагатай жывёлы пад кіраўніцтвам Зосі Шабунька расказаў аб тым, што вучотчык Рыгор Каўшовік не сочыць за надоямі малака.

Устаў з-за стала старшыня калгаса, загарэлы чалавек з чорнай чупрынай, і, крыху пакашліваючы, сказаў:

— Добрую справу робяць комсамольцы, што актыўна ўмешваюцца ва ўсе калгасныя справы. З іх дапамогай мы навялі парадак на свінаферме, цяпер трэба будзе пагаварыць на праўленні і аб нашых іншых фермах. Комсамольцы добра дапамагаюць у нарыхтоўцы кармоў для жывёлы. З адстаючых выйшла ў перадавыя шостая паляводчая брыгада, а брыгадзірам там, як вам вядома, комсамолец.

Старшыня хваліў работу комсамольска-маладзёжнага звяна па вырошчванню цукровых буракоў. Ён адзначыў, што добра пачаў працаваць на аўтамашыне Мікола Прэдка.

«Адгадаў мае думкі», — задаволена падумаў Холад.

Другое пытанне — аб рабоце хаты-чытальні — вельмі цікавіла моладзь. І хоць комсамольская арганізацыя нядаўна вылучыла загадчыкам хаты-чытальні Зосю Сурмач, аднак не задаволіла сход яе справаздача. Комсамолка зачытала добры план работы на летні перыяд і гэтым абмежавалася. Было відаць, што хата-чытальня не стала яшчэ цэнтрам палітыка-масавай работы ў вёсцы, што яна не згуртавала вакол сябе актыву з ліку сельскай інтэлігенцыі, з перадавых комсамольцаў. На сходзе загаварылі аб тым, каб разгарнуць навукова-асветную прапаганду сярод насельніцтва, праводзіць лекцыі на сельскагаспадарчыя тэмы.

Позна закончыўся сход, але Міколу Прэдку не хацелася спаць. Ён пачакаў на вуліцы сакратара комсамольскай арганізацыі, а калі той выйшаў з дому, сказаў:

— Антон, пастаў мяне на жняярку... на ўсё жніво.

— А справішся?

— Што ты! — уражаны такім пытаннем, усклікнуў Мікола. — Ты-ж ведаеш, як я тэхніку люблю. Я кавалям дапамагаю ўжо і жняярку рамантаваць.

— Параімся на праўленні, — пасяброўску адказаў Холад і шчыра паціснуў хлопцу на развітанне руку.

Партыйны сход прымаў у рады Комуністычнай партыі Антона Дзямянавіча Холада. На крэслах, на лаўках сядзелі настаўнікі, старшыня і брыгадзіры калгаса, работнікі сельсовета і пошты. Гаварыў сакратар партыйнай арганізацыі:

— Галоўным напрамкам комсамольскай работы з'яўляецца комуністычнае выхаванне нашай моладзі. Іменна гэтым напрамкам і ідзе комсамольская арганізацыя калгаса імя Молатава. Яна выхоўвае ў моладзі добрасумленныя адносіны да працы, пачуцці калектывізма і дружбы, любві да сваёй совецкай Радзімы. Паслухайце, якія пытанні абмяркоўвалі комсамольцы на сваіх сходах, — і Цэзар Эдмундавіч пералічвае мноства пытанняў. Тут і палітычная вучоба комсамольцаў, і працоўная дысцыпліна, і работа гурткоў мастацкай самадзейнасці, і выпуск «Баявых лісткоў», і спартыўная работа сярод моладзі, і антырэлігійнае выхаванне маладых калгаснікаў, і шмат іншых.

— Гэта гаворыць аб тым, — прадаўжае Хрушчановіч, — што комсамольская арганізацыя жыве баявым, кіпучым жыццём. І вялікая заслуга ў тым належыць яе важаку. Ён умее арганізаваць моладзь на выкананне ўсіх задач, што стаяць перад калгасам, дабівацца павышэння яе палітычнага ўзроўню. У гэтым годзе комсамольцы актыўна вывучалі матэрыялы XIX з'езда нашай партыі.

Цэзар Эдмундавіч, паглядзеўшы ў бок Холада, прадаўжаў:

— Але ёсць і недахопы ў рабоце сакратара комсамольскай арганізацыі. Забыўся ён аб росце комсамольскіх радоў. У вёсках Пацэвічы і Самуйлавічы шмат моладзі. З ёю трэба таксама працаваць, расціць комсамольцаў.

Антон Холад адчуваў, што Хрушчановіч гаворыць праўду. Сапраўды, за некалькі апошніх месяцаў комсамольская арганізацыя не прыняла ў свае рады ніводнага чалавека. «Дрэнна», — згаджаецца Холад.

Пакуль ён так разважаў, слова ўзяў брыгадзір пятай брыгады Апанас Якубік. Ён таксама загаварыў аб комсамольцах.

— У мяне ёсць прапанова прыняць тазарыша Холада кандыдатам у члены Комуністычнай партыі Совецкага Саюза, — закончыў ён. І ўсе яго падтрымалі...

Юнак выйшаў з канцылярыі ўзрушаны і шчаслівы. Ён — баец вялікай арміі комуністаў! Антон сэрцам адчуў, што гэтае высокае званне яшчэ больш абавязвае яго перад дружным калектывам комсамольцаў і ўсёй моладзі. Званне комуніста надало яму новых сіл, натхніла на новыя выдатныя справы, надало ўпэўненасці ў іх паспяховым ажыццяўленні.

Калгас імя Молатава
Мастоўскага раёна
Гродненскай вобласці.

Д. САМОЙЛАЎ

# У музеі-кватэры Нікалая Остроўскага



Нікалай Остроўскі.

Жыццё і творчасць любімага совецкім народам пісьменніка Нікалая Аляксеевіча Остроўскага з'яўляецца яркім прыкладам беззаветнага служэння Радзіме, партыі Леніна — Сталіна.

Нікалай Остроўскі быў узорам волі, арганізаванасці і дысцыплінаванасці. Ён гаварыў: «Мужнасць нараджаецца ў барацьбе і праўяраецца выпрабаваннямі». Мужнасцю і выпрабаваннямі было напоўнена ўсё яго жыццё.

У Маскве на вуліцы Горкага ў доме, дзе правёў апошні год свайго жыцця Нікалай Остроўскі, створаны дзяржаўны музей яго імя. У чатырох пакоях музея-кватэры сабрана багата экспанатаў — рукапісаў, дакументаў, фотаздымкаў, кніг, якія характарызуюць важнейшыя этапы жыцця і творчасці пісьменніка-барацьбіта. Тут захоўваюцца пісьмы і ўспаміны сваякоў і сяброў Остроўскага. На сценах — карціны, якія адлюстроўваюць яго біяграфію і яго творы. У шкляной шафе — асабістыя рэчы, а таксама падарункі, прысланыя моладдзю нашай краіны і краін народнай дэмакратыі.

Дырэктар музея-кватэры — жонка Н. Остроўскага Раіса Парфір'еўна і экскурсаводы расказваюць аб бяспрыкладным жыццёвым подзвігу Нікалая Аляксеевіча.

Нарадзіўся Н. Остроўскі ў 1904 годзе ў вёсцы Вілія былой Валынскай губерні. Бацька Нікалая — Аляксей Іванавіч — працаваў на бровары. Бровар часта закрываўся, і тады Аляксей Іванавіч разам з дочкамі Надзяй і Кацяй хадзіў на заработкі ў панскі фальварак. Маці Нікалая — Ольга Осіпаўна — была кухаркай у паноў.

Цяжка жылося сям'і Остроўскіх. На адной з карцін музея паказаны наступны эпізод. Чатырохгадовы Коля назірае за тым, як яго старэйшы брат Міця, які працаваў у слясарнай майстэрні, прышоўшы пасля работы дамоў, плачучы, сцягвае з акрываўленага цела кашулю.

— Цябе там білі?..— гнеўна ўскліквае Коля.— І ты цярпеў?..

Так ужо з дзіцячых год расло ў Нікалая пачуццё пратэсту супраць прыгнёту, самавольства і несправядлівасці.

Коля быў здольным хлопчыкам. Ва ўзросце чатырох год ён ужо ведаў азбуку і нават крыху чытаў, хоць ніхто яго гэтаму не вучыў. Ён часта хадзіў з сёстрамі ў школу, прагна імкнучыся даведацца пра ўсё, што там робіцца. На карціне ў музеі — клас сельскай школы. На парозе сядзіць чатырохгадовы Коля і ўважліва слухае тлумачэнні настаўніцы.

Шасцігадовым хлопчыкам Коля паступіў у школу і скончыў яе з пахвальным лістом.

У канцы 1914 года сям'я Остроўскіх пераехала ў Шэпятоўку. А ўжо ў наступным годзе пачынаецца для Нікалая працоўнае жыццё. Ён — рабочы ў вакзальным буфеце, потым распілоўшчык дроў на складзе матэрыялаў станцыі.

«Нікалай Остроўскі — «хлопчык на кухні», — так называецца малюнак, які паказвае бедную падвальную каморку пры буфеце, дзе працаваў Нікалай. Сваё бязрадаснае маленства, падобнае да маленства мільёнаў рабочых падлеткаў, Н. Остроўскі так характарызаваў у сваім выступленні на IX з'ездзе комсамола Украіны: «Наша маленства было пад ярмом капіталізма. Мы не паспявалі яшчэ рабіцца юнакамі, яшчэ дзецьмі траплялі пад капіталістычны прыгнёт, і замест радаснага юнацтва, радаснага маленства нас чакала знясільваючая праца ад ранку да позняй ночы літаральна за кавалак хлеба».

У гэты час Нікалай многа чытае — чытае ўсё, што трапляе пад рукі. Успамінаючы гэты перыяд, Н. Остроўскі гаварыў: «Нічога я не любіў з дзіцячых год так, як кнігі. Для іх я гатовы быў ахвяраваць усім. Працуючы хлопчыкам на кухні, я аддаваў свой абед газетчыку за тое, што ён дазваляў мне ў кароткія хвіліны начнога перапынку чытаць часопісы і кнігі». Асабліва захапляў юнака «Кабзар» Шаўчэнкі, кнігі Талстога, Чэхава, Горкага. Ён любіў чытаць уголас сваёй маці вершы і паэмы Шаўчэнкі.

«Любоў да радзімы, — піша ў сваіх успамінах маці Нікалая Остроўскага, — нянавісць да ворагаў, прыгнятальнікаў народа, гэтак горача апісаныя ў цудоўных вершах Шаўчэнкі, хвалявалі нас да слёз. Доўга не клаўся спаць Коля пасля такіх чытанняў і з палаючымі шчокамі і ўзбуджанымі вачыма сядзеў, аб чымсьці задумаўшыся». У музеі экспаніруюцца кнігі, якія адыгралі вялікую ролю ў развіцці палітычнай свядомасці хлопчыка: біяграфія Гарыбальдзі, раман Джыаваньёлі «Спартак», «Авадзень» Войніча, раманы Талстога, кнігі Чэхава і Горкага. Коля не мог спакойна чытаць пра галечу, у якой жывуць працоўныя людзі, пра социяльную няроўнасць і несправядлівасць.

Нікалаю Остроўскаму было трынаццаць год, калі адбылася Вялікая Кастрычніцкая социялістычная рэволюцыя. У 1918 годзе ён працуе на гарадской электрастанцыі спачатку памочнікам качагара, пасля — памочнікам электраманцёра, займаецца ў Вышэйшым пачатковым вучылішчы. У гэты-ж час ён пачынае прымаць удзел у рэволюцыйнай барацьбе. Экспанаты музея ярка расказваюць пра гэты перыяд.

Ішла грамадзянская вайна. Не гледзячы на сваю маладосць, Коля разам са сваімі аднагодкамі прымае актыўны ўдзел у абароне вялікіх заваёў Кастрычніка. Шэпятоўка акупіравана немцамі. Коля Остроўскі наладжвае сувязь з рабочымі-большэвікамі і выконвае іх даручэнні. На малюнку мы бачым Колю Остроўскага за расклейкай адозваў шэпятоўскіх большэвікоў. Другі малюнак паказвае Колю, калі ён падносіць патроны чырвонагвардзейцам, якія вядуць бой з нямецкім атрадам. У гэты час Коля дапамагае ўцячы з-пад арышту члену Шэпятоўскага падпольнага рэўкома Ф. Перадрэйчуку.

Пад шклом — комсамольскі білет Нікалая Остроўскага. Дата ўступлення ў комсамол — 1919 год. Буйнымі літарамі напісаны ўнізе словы, узятыя з тэзісаў Н. Остроўскага да яго выступлення на IX з'ездзе комсамола Украіны: «Разам з комсамольскім білетам мы атрымлівалі вінтоўку і дзвесце патронаў...»

Юнаком пайшоў Остроўскі на фронт гра-



У адным з пакояў музея-кватэры.
(Фотахроніка ТАСС.)



Наведвальнікі знаёмяцца з альбомамі, прысвечанымі творчасці Нікалая Астроўскага.

мадзянскай вайны. Не шкадуючы сваіх сіл і жыцця, храбра змагаўся ён у легендарнай дывізіі Катоўскага, а потым у Першай Коннай арміі, абараняючы Радзіму ад ворагаў рэвалюцыі.

Пасля звароту ў Шэпятоўку, калі яна была вызвалена Чырвонай Арміяй, Н. Астроўскі адразу звязваецца з рэўкомам і аказвае яму актыўную дапамогу ў наладжванні нармальнага жыцця горада. З цікавасцю разглядаюць наведвальнікі пасведчанне, выданае Нікалаю Астроўскаму Шэпятоўскім рэўкомам аб тым, што ён камандыруецца «ў пакінутыя буржуямі дамы для збору ў іх кніг». Кнігі перадаваліся ў грамадскую бібліятэку.

Але да Шэпятоўкі зноў набліжаўся вораг. Н. Астроўскі зноў ідзе на фронт. У баях ён быў цяжка паранены і пасля працяглага лячэння дэмабілізаваны з арміі.

У 1921 годзе Кіеўскі губком камсамола накіроўвае Астроўскага ў галоўныя майстэрні Паўднёва-Заходняй чыгункі. Там ён працуе памочнікам электраманцёра і адначасова сакратаром камсамольскай арганізацыі. Грамадзянская вайна падыходзіла к канцу. Працоўны фронт рабіўся галоўным фронтам. Н. Астроўскі ўдзельнічае ў аднаўленні Кіева, працуе на ўдарным будаўніцтве чыгуначнай веткі Кіеў — Баярка. Тут ён захварэў на тыфус і на рэўматызм у цяжкой форме.

Ачуняўшы крыху пасля хваробы, Астроўскі з новай энергіяй бярэцца за работу. На малюнках мастакоў паказаны зварот Н. Астроўскага ў чыгуначныя майстэрні, удзел у выратаванні лесасплаву на Дняпры і г. д.

Напружаная работа падарвала здароўе Нікалая Астроўскага. Ён зноў захварэў і рашэннем урачэбнай камісіі быў пераведзены на інваліднасць. Але не ў характары юнака было прымірыцца з такім рашэннем. Ён пакідае бальніцу і едзе зноў у Шэпятоўку.

Аб яго актыўнай камсамольскай рабоце ў гэты перыяд сведчаць шматлікія дакументы і фотаздымкі. Вось пасведчанні аб тым, што Н. Астроўскі з'яўляецца членам Шэпятоўскага акружкома камсамола, членам Валынскага губкома камсамола; вось выпіска з пратакола Бераздоўскага райпарткома аб прызначэнні Н. Астроўскага паліткіраўніком сярод вучняў старэйшых узростаў. Другія дакументы сведчаць, што Астроўскі працуе сакратаром Бераздоўскага райкома камсамола, Ізяслаўльскага райкома камсамола, з'яўляецца камісарам другога батальёна ўсеагульнага навучання. На фотаздымках — Н. Астроўскі сярод дэлегатаў раённага з'езда Саветаў Бераздова, сярод дэлегатаў Валынскага губернскага з'езда камсамола, у час выступлення на мітынгу ў Бераздове і інш.

Нікалай Астроўскі вельмі многа працуе ў гэты час, пакідаючы для сну толькі тры-чатыры гадзіны. Аднак і ў гэтых умовах ён знаходзіць час для чытання кніг, глыбока вывучае працы Леніна і Сталіна, «Капітал» Маркса.

1924 год — знамянальны ў жыцці Нікалая Астроўскага. Яго прымаюць у партыю. У рамцы пад шклом — партыйны білет Н. Астроўскага. Унізе сказаныя ім словы: «Усіх нас выхавала, узрасціла наша вялікая партыя, быць членам гэтай вялікай партыі — запаветная мара кожнага маладога чалавека нашай краіны».

Перанесеныя Астроўскім цяжкія хваробы і былое раненне ўсё часцей даюць сябе адчуваць. Лячэнне на курортах, у клініках, аперацыя правага калена не далі належных вынікаў. Хвароба прыкоўвае яго да ложка. Пачынаецца доўгая і ўпартая барацьба за жыццё. Моцная воля, мужнасць, настойлівасць і ўпартасць дапамагаюць яму пераносіць фізічныя пакуты. «... Адно пераважае над усім, — гаворыць ён, — ісці напралом, змагацца чым можна, без сантыментаў і ныцця... А потым падлічым шансы. Пакуль яшчэ ёсць вера і імкненне да жыцця, да працы, не можа быць і гаворкі пра што-небудзь іншае». Нікалай Астроўскі застаецца актыўным членам партыі. Ён шмат чытае, працуе прапагандыстам сярод моладзі. Вялікая карціна мастака Палякова паказвае заняткі, якія праводзіў Астроўскі на сваёй кватэры. Хворы, схуднелы, але з вачыма, якія свецяцца бадзёрасцю, ён захапляюча расказвае нешта юнакам і дзяўчатам, а тыя ўважліва слухаюць палкага прапагандыста.

Хвароба тым часам узмацняецца. Астроўскі траціць магчымасць рухацца, а пасля перанесенага запалення абодвух вачэй — траціць зрок. «Ні пісьма, ні кнігі прачытаць не магу, — пісаў ён свайму сябру. — Пішу наўздагад, не бачачы радкоў, па лінейцы...»

Ды толькі ніякія хваробы не здольны былі зламаць Астроўскага. З кожнай гадзінай мацнее яго воля да жыцця, жаданне вярнуцца ў шэраг працаўнікоў, змагацца за перамогу сацыялізма.

Астроўскі паставіў перад сабой задачу: авалодаць новай зброяй, якая магла-б зноў вярнуць яго ў атрад будаўнікоў новага жыцця. Такой зброяй ён лічыў літаратурную працу. Ён вырашыў напісаць кнігу, каб расказаць у ёй новаму пакаленню моладзі аб жыцці рабочых падлеткаў пры капіталізме, аб іх цяжкай працы і безрадасным маленстве, аб іх удзеле ў барацьбе за совецкую ўладу. «У мяне ёсць план, — гаворыцца ў адным з пісем, — які мае мэту запоўніць жыццё зместам, неабходным для апраўдання самога жыцця». Гутарка ішла аб плане напісання кнігі.

Але для таго, каб справіцца з гэтай задачай, патрэбна была падрыхтоўка. І вось Н. Астроўскі паступае ў завочны Комуністычны універсітэт імя Свердлова. Ён многа працуе над сабой. У адной з вітрын музея паказаны радыёпрыёмнік і радыёнавушнікі, з дапамогай якіх Н. Астроўскі слухаў лекцыі завочнага універсітэта. Побач экспаніруюцца кнігі, якія прачытаў ён у гэты час. Тут шмат твораў класікаў марксізма-ленінізма, мастацкай літаратуры.

На сцяне другой залы залатымі літарамі напісаны словы з рамана «Як гартавалася сталь»: «Самае дарагое ў чалавека — гэта жыццё. Яно даецца яму адзін раз, і пражыць яго трэба так, каб... паміраючы, мог сказаць: усё жыццё і ўсе сілы былі аддадзены самаму цудоўнаму ў свеце — барацьбе за вызваленне чалавецтва». Іменна такім палымяным совецкім патрыётам, бязмежна адданым справе рэволюцыі, справе працоўнага народа і быў сам Н. Астроўскі.

Шматлікія экспанаты расказваюць, як Астроўскі працаваў над раманамі «Як гартавалася сталь» і «Народжаныя бурай».

З хваляваннем аглядаюць наведвальнікі рукапісы пісьменніка, чарнавыя блакноты, транспаранты, з дапамогай якіх ён пісаў, калі яшчэ мог рухаць рукой, чарнавыя машынапісныя экземпляры тэкста, фотаздымкі асоб, некаторыя рысы якіх Астроўскі ўвасобіў у вобразах герояў рамана «Як гартавалася сталь». Экспанаты паказваюць, з якой стараннасцю пісьменнік працаваў над вобразамі герояў сваіх твораў. Ён па некалькі разоў перарабляў асобныя месцы.

Адразу пасля выхаду ў свет кнігі «Як гартавалася сталь» яна заваявала любоў мільёнаў чытачоў. У музеі выстаўлена вялікая колькасць пісем людзей самых розных прафесій і ўзростаў, якія віншавалі пісьменніка з творчай удачай. Яны паведамлялі яму аб тым, якімі блізкімі і дарагімі сталі для іх героі твора, як палюбілі яны Паўла Карчагіна — перадавога

Выданні твораў Нікалая Астроўскага на мовах народаў СССР і за мяжою.



Нікалай Астроўскі дыктуе сакратару А. П. Лазаравай.



барацьбіта, чалавека новай, комуністычнай маралі.

Аб сіле ўздзеяння гэтай кнігі ярка гаворыць пісьмо, каля якога заўсёды затрымліваюцца наведвальнікі. Яно азаглаўлена «Хто мяне зрабіў чалавекам». Пісьмо не падпісана аўтарам, яго прыслаў былы злодзей. Ён паведамляе, што ў чамадане, які ён украў, аказаўся раман «Як гартавалася сталь». Прачытаўшы выпадкова першую старонку, ён не мог ужо закрыць кнігу. «Мне зрабілася сорамна за сябе, — піша ён, — калі я прачытаў раман. Я даў слова жыць сумленна і стрымаў яго. Вось ужо трэці год працую на будаўніцтве Маскоўскага метрапалітэна».

У адной з залаў паказана, якое шырокае распаўсюджанне набылі кнігі Астроўскага. У вітрынах выстаўлены featureнастайныя выданні, што вышлі ў розных кутках свету. Па колькасці выданняў раман «Як гартавалася сталь» займае адно з першых месц сярод найбольш папулярных твораў савецкай літаратуры. Кніга вытрымала 243 выданні ў СССР. Яна вышла на 46 мовах народаў СССР тыражом у 3 368 100 экземпляраў. За мяжой раман вышаў у 57 выданнях на 20 мовах у 22 краінах.

Кніга Н. Астроўскага «Як гартавалася сталь» была высока ацэнена народам. Савецкі ўрад узнагародзіў пісьменніка ордэнам Леніна. У шкляной скрыначцы на аксамітнай падушцы экспаніруецца ён у музеі. Побач — пастанова ЦВК СССР аб узнагароджанні, ордэнская кніжка і віншавальнае пісьмо М. І. Калініна.

«Пакуль у мяне б'ецца сэрца, да апошняга ўдару, усё маё жыццё будзе аддадзена бальшэвіцкаму выхаванню маладога пакалення нашай сацыялістычнай Радзімы», — пісаў Н. Астроўскі ў пісьме да І. В. Сталіна з прычыны сваёй узнагароды. Гэтыя словы буйнымі літарамі напісаны на сцяне побач са словамі пастановы аб узнагароджанні.

Пісьменніку спецыяльным загадам Наркамата Абароны было прысвоена званне брыгаднага камісара. У адной з вітрын ляжыць ваенны білет, выдадзены Н. Астроўскаму Палітупраўленнем РСЧА. А вось пісьмо, якое атрымаў Нікалай Астроўскі ад адной камсамолкі: «Вы, мабыць, адзіны брыгадны камісар, які не можа сказаць, колькі ў ягонай брыгадзе байцоў, але вы, напэўна, адчуваеце сэрцам, якая гэта вялізная брыгада, бо гэта-ж уся моладзь нашай неабсяжнай краіны».

З хваляваннем уваходзяць наведвальнікі ў асабісты пакой Н. Астроўскага. Тут усё захавалася ў такім выглядзе, як было пры яго жыцці. Ложак, побач пішучая машынка. Вялікая кніжная шафа. Пісьмовы стол з чарнільным прыборам, папкі патрэбных папер, тэлефон, радыёпрыёмнік. Адсюль Н. Астроўскі некалькі разоў выступаў па радыё. Уключаецца пласцінка, і наведвальнікі чуюць голас Нікалая Астроўскага.

Спецыяльны раздзел прысвечаны тэме «Пісьменнікі аб Астроўскім». Тут пісьмы, успаміны Серафімовіча, Фадзеева, Шолахава, Рамэн Ралана, Матэ Залка і іншых.

Рамэн Ралан у пісьме да Астроўскага пісаў: «Вы застанецеся для свету добрадзейным і натхняючым прыкладам перамогі духу... над зменлівасцямі асабістага лёсу».

Творчасць Н. Астроўскага аказвала і аказвае моцнае ўздзеянне на розумы, пачуцці і справы мільёнаў простых людзей ва ўсім свеце. Яна была на ўзбраенні байцоў рэспубліканскай Іспаніі, Народна-Вызваленчай арміі Кітая, дапамагае маладым будаўнікам сацыялізма ў краінах народнай дэмакратыі.

Вось некалькі запісаў наведвальнікаў з кнігі водгукаў, якія выстаўлены на спецыяльным стэндзе.

Відны вучоны і грамадскі дзеяч Кітая Го Мо-жо запісаў: «Хоць ты памёр, але твой дух жыве ў сэрцы кожнага чалавека і натхняе яго на барацьбу і працу».

«Жыццё і подзвіг вялікага Астроўскага заўсёды былі прыкладам для нас», — піша тройчы герой Кітайскай Народна-Вызваленчай арміі Чжан Мін.

У музеі экспаніруецца экземпляр кнігі «Як гартавалася сталь» на персідскай мове. Яна абпалена і стаптана паліцэйскімі ботамі. Кніга падабрана на падлозе разгромленага клуба дэмакратычнай моладзі Тэгерана.

Годы Вялікай Айчыннай вайны паказалі, які блізкі і дарагі Астроўскі для савецкіх людзей. Вобраз Астроўскага служыў натхняючым прыкладам мужнасці, гераізма для байцоў і афіцэраў Савецкай Арміі. Аб гэтым сведчаць многія хвалюючыя дакументы. «Прашу перадаць Цэнтральнаму Камітэту камсамола, — піша камандуючы арміяй Герой Савецкага Саюза генерал-палкоўнік В. І. Чуйкоў, — маё захапленне новым пакаленнем Паўлаў Карчагіных. Патомкі нашы ніколі не забудуць веліч духу і казачную моц камсамольскіх сэрцаў ля сцен Сталінграда».

На стэндах шэраг кніг «Як гартавалася сталь», што прайшлі вялікі шлях па дарогах вайны. Вось экземпляр гэтай кнігі, прабіты варожымі кулямі. У пісьме, якое было прыслана разам з ёй, паведамляецца, што кніга разам з байцамі прайшла баявы шлях ад Віцебска да Усходняй Прусіі. У апошнім баі яна знаходзілася ў рэчавым мяшку байца Ф. Фядотава, які загінуў смерцю храбрых. Побач экспаніруецца камсамольскі білет, заліты крывёю камсамольца Ф. Фядотава. Другі экземпляр кнігі «Як гартавалася сталь» прайшоў слаўны шлях разам з экіпажам кацера СК-065. Кнігу падаравалі маракам маці і сястра Нікалая Астроўскага. Пасля вайны кніга вярнулася ў музей-кватэру Астроўскага абпаленая, прабітая асколкамі авіябомбы і залітая крывёю загінуўшага марака.

На вобразе Паўла Карчагіна, на прыкладзе яго мужнасці выхоўваліся маладыя героі Вялікай Айчыннай вайны Нікалай Гастэла, Зоя Касмадзем'янская, Алег Кашавы, Аляксандр Матросаў і многія іншыя. Ён надаваў новыя сілы абаронцам Севастопаля і Сталінграда, натхняў партызанаў Беларусі і Украіны на подзвігі ў імя Радзімы.

Нікалай Астроўскі змагаўся не толькі на франтах вайны, ён і пасля вайны павёў савецкую моладзь у бой за аднаўленне народнай гаспадаркі, натхняў і натхняе яе на працоўныя подзвігі. У спецыяльным раздзеле музея расказваецца аб тым, як маладзёжныя брыгады на прамысловых прадпрыемствах, чыгунках, на будоўлях, у калгасах з чэсцю носяць імя Нікалая Астроўскага. У цэнтры стэнда — фотаздымак шагаючага экскаватара Ш-1 імя Астроўскага. Працуючы на будаўніцтве Волга-Данскога канала, камсамольска-маладзёжны экіпаж машыны першы выняў мільён кубаметраў зямлі.

Так ад адной залы да другой, ад стэнда да стэнда праходзіць перад наведвальнікамі музея ўсё жыццё пісьменніка-барацьбіта, жыццё, поўнае творчага гарэння, нястомнай і гераічнай барацьбы ў імя перамогі комунізма.

І калі агляд экспазіцыі музея-кватэры закончаны, кожны імкнецца выказаць у кнізе водгукаў свае думкі, пачуцці і ўражанні ад бачанага. Напісаныя на розных мовах, людзьмі розных спецыяльнасцей і ўзростаў, усе водгукі выказваюць адну і тую-ж думку:

— На прыкладзе Н. Астроўскага будзем вучыцца, як трэба жыць, змагацца і перамагаць, як трэба любіць сваю Радзіму. Аддадзім усе свае сілы справе, за якую змагаўся і аддаў сваё жыццё пісьменнік-барацьбіт.





# Марытэ Мельнікайтэ

А. ГОЛУБЕЎ

У музеях Вільнюса і раённага цэнтра Літвы Зарасай захоўваюцца нямногія, але дарагія сэрцу кожнага савецкага чалавека асабістыя рэчы гераіні літоўскага народа Марытэ Мельнікайтэ. Тут яе партрэты, дзявочае рукадзелле, любімыя кнігі, пашпарт, камсамольскі білет № 17027681. На білеце цвёрды і роўны почарк асабістага подпісу Марытэ на рускай і літоўскай мовах. Над білетам — аншлаг, што ўвасобіў апошнія словы дзяўчыны: «Я змагалася і памру за Савецкую Радзіму!»

З партрэта глядзіць адкрыты твар, акаймаваны светларусымі валасамі. Глыбокі позірк, высокі лоб. Выраз твару гаворыць пра рашучы, валявы характар дзяўчыны.

Сябры ведалі Марытэ як нястомнага, жыццерадаснага чалавека. Гэтую сінявокую дзяўчыну яны любілі яшчэ і за тое, што ва ўсіх справах яна неяк непрыкметна станавілася важаком і арганізатарам, вызначалася смеласцю і спрытам. Марытэ ўмела хутчэй за ўсіх пераплыць возера, збегчы з крутога ўзгорка. Яна добра вучылася, любіла чытаць кнігі.

Марытэ давялося пазнаць у жыцці толькі маленства і юнацтва, яна жыла ўсяго дваццаць год. Але якое яркае было гэтае жыццё!

Нарадзілася яна ў 1923 годзе. Бацька яе Іозас Мельнікас працаваў слесарам, а маці зарабляла тым, што мыла чужую бялізну. Грошай у сям'і ніколі нехапала. Бацьку пачынала здавацца, што ў іншых мястэчках людзі жывуць лепей, і тады ён. паклаўшы ўсю сваю маёмасць на калёсы, ехаў з сям'ёй шукаць шчасця то ў Ракішкіс, то ў Анікшчай, то ў Марыямпаль. Але нідзе ў буржуазнай Літве не было соладка працоўнаму чалавеку. Не прыходзіў дастатак і ў хату старога Мельнікаса.

З шасці год Марытэ сама пачала працаваць. Улетку пасвіла чужую жывёлу, зімой была нянькай у чужых сем'ях.

Марытэ любіла школу. Першыя кнігі прывілі ёй нястрымнае імкненне да ведаў. Але вучыцца давялося нядоўга. Скончыўшы пачатковую школу, Марытэ вымушана была пайсці працаваць на фабрыку. Тут, у рабочым асяроддзі, дзяўчына ўпершыню ўбачыла забароненыя лістоўкі, якія заклікалі людзей да арганізаванай барацьбы за лепшую долю.

Незабыўны 1940 год, які прынёс Літве новае жыццё, застаў Марытэ ў Зарасаі. Дзяўчына вучылася тут рамяству краўчыхі. Новыя далягляды, што нечакана адкрыліся перад ёю, захапілі семнаццацігадовую Марытэ. З юнацкім запалам уключылася яна ў бурлівы ход падзей. Яе захапляла ўсё.

На дзвярах аднаго з дамоў у Зарасаі з'явілася шыльда: «Павятовы камітэт ЛКСМ Літвы». Марытэ адной з першых у горадзе ўступіла ў камсамол. Адкрыліся грамадскія курсы, і Марытэ адразу паступае на гэтыя курсы. Аматары сцэны стварылі самадзейны драматычны гурток, і Марытэ з захапленнем удзельнічае ў спектаклях. Яна робіцца душой і арганізатарам масавай работы сярод моладзі.

Чэрвеньскімі днямі 1941 года нечакана абарвалася, не паспеўшы расквітнець, новае для Літвы жыццё. У першы-ж дзень вайны фашысцкія сцярвятнікі падпалілі ціхі зялёны Зарасай. З захаду паявіліся першыя бежанцы...

Марытэ не магла прымірыцца з тым, што чужынцы адбіраюць шчасце ад яе, ад усяго літоўскага народа. Усёй сваёй істотай яна зразумела, што перад ёю, камсамолкай, ёсць толькі адзіны шлях: непрымірымая барацьба.

У першы-ж дзень вайны Мельнікайтэ знікла з Зарасая. Ніхто не ведаў, дзе яна, што з ёю...

Лёгка схавацца ці прайсці непрыкметна ў родных мясцінах — вядомы кожны ўзгорак, кожная сцежка, кожнае дрэва... вядомы і кожны чалавек. Дзяўчына хутка знаходзіць таварышоў, звязваецца з камуністамі і з дапамогаю іх уступае ў адзін з першых у Літве партызанскіх атрадаў. Такія атрады пачыналі барацьбу з прымітыўнай зброяй у руках, але неўзабаве набывалі трафеі, боепрыпасы, радыёпрыёмнікі. Паявілася ўсё гэта і ў зарасайскіх партызан.



Герой Савецкага Саюза
Марытэ Мельнікайтэ.

Атрад прымае па радыё зводкі Совінформбюро, размнажае іх, піша свае лістоўкі. Марытэ разносіць іх па хутарах і вёсках.

...Пражыта першая суровая зіма. Багата цяжкіх выпрабаванняў перанёс атрад, у якім знаходзілася Марытэ. Яго ўсюды падпільноўвалі і праследавалі ворагі, але ўсё дарэмна.

Ніхто ніколі не бачыў Марытэ сумнай. З якім натхненнем расказвае яна народу пра перамогі над немцамі пад Масквой, пад Сталінградам! Дзяўчына стала спрактыкаваным байцом, дасканала валодала ўсімі відамі зброі, майстэрствам разведкі. Яна была хуткая, як птушка. У атрадзе яе і называлі «Куосайтэ», што азначала «Птушка-мсціўца».

Аднойчы позняй восенню атрад з трох бакоў абкружылі фашысты. Становішча здавалася крайне небяспечным, шлях да адступлення адрэзала рака.

— Не бойцеся, таварышы, мы выратуемся! — пачуўся голас Марытэ. — Кідайце вопратку, плывіце! — і яна першай кінулася ў ледзяную ваду. Па яе прыкладу ўсе байцы пад агнём ворага пераплылі цераз раку. Атрад быў выратаваны.

Вясна 1943 года. З фронта ідуць добрыя весткі. У грозную сілу вырас партызанскі рух у тылу ворага. З'явіліся новыя вялікія атрады і брыгады. Марытэ працуе сувязной паміж імі.

Бясстрашную дзяўчыну-партызанку ведалі і любілі мясцовыя жыхары. Але ведалі яе і ворагі. Яны шукалі яе, рабілі засады.

...Марытэ ўзначальвае шасцёрку баявых таварышаў, вядзе іх на адказнае заданне. Ноччу група зрабіла вялікі пераход і раніцай, выбраўшы зручнае месца ў невялікім лесе, спынілася на адпачынак. Стомленыя людзі паспелі толькі зняць зброю і распакаваць харчы, як раптам пачалася страляніна. Карны атрад гітлераўцаў абкружыў лес, і невялічкая група апынулася ў акружэнні.

Прабіцца і выйсці з акружэння не было як. Адважныя смельчакі занялі абарону. Доўга трымаліся яны ў няроўнай барацьбе. Марытэ бачыла, як гінулі яе баявыя таварышы. Яна засталася адна. А ў руках толькі дзве гранаты. Ворагі ўжо блізка, Марытэ бачыць іх раз'юшаныя твары. Дзяўчына кідае ў іх гранату. Блізкі выбух параніў і яе самую.

«Толькі-б не захапілі жывую!» Марытэ бярэ другую гранату, каб узарваць сябе, але ў гэты момант траціць прытомнасць...

Шмат разоў дапытвалі смелую партызанку гітлераўцы. Білі, катавалі. Ды толькі ніводнага слова не пачулі фашысты ад Марытэ.

13 ліпеня 1943 года карнікі расстралялі Марытэ Мельнікайтэ. Зроблена было гэта на вачах жыхароў, якіх нягоднікі сагналі да месца расстрэлу.

Людзі чулі апошнія словы гераіні:

— Я змагалася і памру за Савецкую Радзіму!

Не, не абмяжоўваецца рамкамі музеяў памяць аб Марытэ. Далёка пайшла яе слава!

У сям'ю Марытэ, да яе бацькі і маці, пенсіянераў, да яе братоў і сясцёр ідуць пісьмы з усіх куткоў нашай Радзімы. У доміку Марытэ часта бываюць камсамольцы і піянеры. Доўга слухаюць яны расказы Антаніны Ларыёнаўны пра сваю дачку, пра яе жыццё і подзвігі.

Светлы вобраз Марытэ Мельнікайтэ жыве ў сэрцы народа. Імем Марытэ названы вуліцы ў гарадах, калгасы, сады і паркі. Аб ёй напісаны паэмы, створаны мастацкі фільм. Карэйскі лектар, які наведаў нядаўна Літву, расказаў, як група кітайскай моладзі ў Пекіне, прагледзеўшы фільм «Марытэ», арганізавала добраахвотны атрад імя Марытэ Мельнікайтэ і паехала ў Карэю.

Бяссмертны подзвіг дзяўчыны зрабіўся сюжэтнай асновай для першай сучаснай літоўскай оперы. Яе стварылі кампазітар І. Рачунас і паэт А. Венцлова. Мастак лаўрэат Сталінскай прэміі Ю. Мікенас зрабіў вялікую скульптуру — помнік Марытэ Мельнікайтэ. Манументальная фігура адліваецца з бронзы і ў бліжэйшы час будзе ўстаноўлена ў Зарасаі, на радзіме Марытэ.

Светлая памяць аб Марытэ жыве ў вялікіх справах, у стваральнай працы літоўскага народа, у росквіце новай, сацыялістычнай Літвы, за якую змагалася і аддала жыццё Мельнікайтэ.

Марытэ марыла пра зварот у родны вольны Вільнюс. З болем глядзела яна на яго руіны. Сёння яшчэ больш прыгожым зрабіўся старажытны Вільнюс і другія адроджаныя гарады Літвы.

Марытэ марыла пра школу і інстытут. Сёння ўсе школы і вышэйшыя навучальныя ўстановы рэспублікі зрабіліся здабыткам рабочай і сялянскай моладзі.

Марытэ любіла свой азёрны край, свой народ, ведала, што ён будзе шчаслівым толькі ў брацкай сям'і савецкіх народаў. Сёння на мяжы роднага краю ўзведзена гідраэлектрастанцыя «Дружба народаў», — яна ўзвышаецца як маяк і сімвал непарушнага брацкага саюза працоўных Літвы, Латвіі і Беларусі, як сцяг нашых перамог.



# Змова

**Тарас ХАДКЕВІЧ**

**Апавяданне**

Мал. М. Бельскага.

1

Той тыдзень трактарыст Ігнась Цвелік працаваў у дзённай змене. Уставаў ён у пачатку шостай гадзіны раніцы. Прагнаўшы сцюдзёнай вадой рэшткі сну з твару і выпіўшы поўглечыка свежага малака, ён звычайна ішоў полем у прыўзнятым настроі. Зводдалі далятаў знаёмы рокат «ДТ-54» — Ігнась пазнаў-бы яго нават тады, калі-б тут грымела самая грозная навальніца. Значыць, напарнік Ігнася — такі-ж, як і ён, дзевятнаццацігадовы хлопец Мікола Лотысь узнімаў звышпланавыя гектары. Уначы, відаць, з машынай у яго ўсё было ў парадку, і ён цяпер пракладваў барозны на новым участку папару і нецярпліва пазіраў у бок патануўшых у зяляніне Койдзіч, чакаючы змены.

Нялёгка, вядома, правесці ноч за рулём трактара, якім-бы ён ні быў спраўным.

Над цьмянай палоскай лесу на ўсходзе ўставала сонца. Рослае жыта з буйнымі, але яшчэ кволымі і пяшчотнымі каласкамі нібы прыціхла, убачыўшы над небакраем палымнеючы шар. Міне яшчэ якая поўгадзіна, і сонца пырсне на палі нястрымнымі струменямі цеплыні і ласкі. Ігнась пазіраў на жыта, успамінаў мінулы год, калі ён з Міколам пераворваў увесь гэты бяскрайні масіў, баранаваў, потым засяваў, счапіўшы ў адзін агрэгат тры сеялкі. Шмат клопатаў і працы было ўкладзена ў гэтую зямлю, і яна вось адказвае з усёй шчодрасцю! Хіба-ж не радасна глядзець, якой сцяной устае жыта, якія цёмнасінія хвалі гоніць па ім вецер!

Не, збажына выдатная, слоў няма, — ні Ігнасю, ні Міколе чырванець за ўраджай не прыдзецца.

Сёння-ж, аднак, Ігнася Цвеліка не хвалявала ні жыта, якое восьвось днямі закрасуе, успыхне празрыстым туманам квецені, ні яркае, па-летняму сонечнае ранне. Ігнасёвы думкі на гэты раз ішлі ў іншым кірунку. Глянуўшы на яго збоку, можна было-б заўважыць, як невысокая, шчуплая постаць хлопца ў паношаным і парадкам запэцканым камбінезоне час-ад-часу ўздрыгвала, як ён узмахваў то адной, то другой рукой, як варушыліся вусны, а ў карых вачах успыхвалі агеньчыкі ні то злосці, ні то крыўды. Нібы ён размаўляў сам з сабою або нешта дэкламаваў.

Ганка... Русавалосая вясёлая Ганка! Глянеш ты — і, здаецца, азёрная сінь струменіць з тваіх вачэй. Засмяешся — здаецца, тысячы званочкаў зліваюцца ў адным пераліве. Мільгне ў вячэрнім змроку твая постаць — і ўжо гарманіст, прысеўшы на лаўцы перад сваёй хатай, спрабуе лады, склікаючы моладзь. Якая з дзяўчат больш жвавая, чым ты, больш задорная, больш кплівая? Знайдзі такую не толькі ў Койдзічах, а і ва ўсім наваколлі!.. Ганка... Ці першы дзень ведае цябе Ігнась? Ці адзін раз ты падзадорвала яго ў імклівым танцы? Ці аднойчы да позняга ён стаяў з табой ля тваёй хаты, моўчкі слухаючы, як шасціць таполя над страхою? Ці мала маўчалі і гаварылі вы?

Учора-ж здарылася тое, пра што Ігнась ніколі і падумаць не мог. Хоць раніцай і трэба было ўставаць з сонцам, ён усе-ж зайшоў у калгасны клуб, дзе моладзь збіралася штовечар. Зайшоў з-за Ганкі, якая была занята на рэпетыцыі драмгуртка, і цярпліва чакаў, пакуль рэпетыцыя скончылася. Моладзь, вышаўшы з клуба, разбілася на купкі і пары, і Ігнась, як таго і пільнаваў, апынуўся з Ганкай. Ішлі начной вуліцай, перакідваліся нязначнымі словамі. Ганка смяялася, жартавала, і ад яе гэтай весялосці так хораша было на сэрцы Ігнася. Але на развітанні яна нечакана задумалася і прамовіла самым сур'ёзным тонам:

— Крыўдуй, не крыўдуй на мяне, Ігнась, а я табе мушу сказаць шчыра адну рэч...

— Што такое? — ён спыніўся, нібы ў грудзі ўдарыла тугая хваля ветру.

— Хлопец ты добры і аўтарытэт у цябе ёсць, — сказала Ганка, — але заўсёды ты... прасякнуты газай і мазутам. Ды і на рукі свае часам зірнуў-бы пільней...

Усякага можна было чакаць ад Ганкі, але гэтыя яе словы збілі Ігнася з панталыку. Гутарка, урэшце, ішла не пра якія-небудзь яго чыста асабістыя якасці, а закранала пэўным чынам гордасць трактарыста. Ігнась сабраўся з духам і, зірнуўшы на Ганку ва ўпор, запытаў:

— Ці ты ўпершыню бачыш мяне?

— Не ўпершыню, канешне, — адказала тая,—але неяк не траплялася выпадку сказаць. Думала: сам здагадаешся...

— Я чалавек тэхнікі, — прыўзняўшы галаву, з адчуваннем уласнай годнасці заявіў Ігнась.

Аднак таго ўражання, на якое ён спадзяваўся, гэта не зрабіла на дзяўчыну. Яна спакойна заўважыла:

— Што-ж — тэхніка цяпер усюды... І ў нас на МТФ яе колькі ёсць— і аўтапаілкі, і электрадойка, і транспарцёры для падачы кармоў...

— Н-ну, зраўняла МТФ з МТС...

— Я не к таму кажу, — ужо з крыўдай на тое, што Ігнась не зразумеў яе, сказала Ганка. — Калі я, напрыклад, працую на МТФ, дык няўжо кожны сустрэчны, убачыўшы мяне, павінен здагадацца пра гэта?

Тут Ігнась не адразу знайшоў, што сказаць, і пакуль ён шукаў трапных слоў, Ганка шпаркім рухам правяла далонямі по яго валасах, узбунтавала іх і, засмяяўшыся, знікла за веснічкамі. Праз момант бразнула клямка ў сенцах яе хаты, усё сціхла, а Ігнась яшчэ стаяў, збянтэжаны, і ніяк не мог знайсці тых слоў, якія дапікнулі-б яе. Потым ён адумаўся, рашуча махнуў рукой і пакрочыў дахаты, разважаючы ўсе-ж па дарозе аб тым, што адбылося. «Зазналася — не інакш, — рабіў ён вывад. — Зашмат ужо ўвагі ёй ад усіх, дык яна і зазналася. Ну і вялікая бяда!.. Хіба на табе, дзяўчына, свет клінам сыйшоўся?»

Але раніцай, калі ён выйшаў з хаты і прыгадаў начную размову, сэрца ў яго заныла. Не так проста забыцца пра Ганку, хоць яна і пакрыўдзіла яго. Няхай і не адна яна такая на белым свеце, аднак, лепшай за яе дзяўчыны для Ігнася не існавала. Ён не ўяўляў, як гэта можна было не бачыць Ганкі, не размаўляць з ёй, або бачыць, як яна размаўляе з другім і як на таго, другога, льецца ласкава-сіняя прамяністасць яе вачэй. Толькі-ж як падыйсці да яе пасля такой размовы. Апраўдвацца, спрачацца зноў? Усім гэтым і быў заклапочаны Ігнась Цвелік, ідучы полем да свайго трактара і не заўважаючы ні прыгажосці рання, ні красы палёў у чэрвеньскім росквіце.

«ДТ-54» з чырвоным сцяжком на радыятары толькі-толькі спыніўся ў канцы папару трэцяй паляводчай брыгады. Мікола Лотысь — увесь запылены, на курносым твары блішчэлі адны вочы — стаяў, абапершыся на крыло машыны і курыў, прагна зацягваючыся. Ён усміхаўся насустрач Ігнасю, і па гэтай усмешцы Ігнась мог меркаваць, што Мікола задаволены вынікамі ночы — прастояў не было. Па свежаўзнятым полі брыў вучотчык брыгады, павольна перастаўляючы побач з сабой двухметроўку, — ён заканчваў абмер апрацаванага Міколам участка. Убачыўшы Ігнася, вучотчык здалёку яшчэ крыкнуў:

— Паўтары нормы... Выдатна... Пераходны сцяжок застанецца за вамі.

— Добра, — буркнуў Ігнась, працягваючы Міколу руку.

— Ты чаго такі хмуры? — заўважыў той. — Недаспаў? Усё з-за Ганкі, відаць.

— Ганка, Ганка! — агрызнуўся Ігнась. — Што табе да Ганкі? Глядзі лепш за сваёй Волькай, а то яна днямі ў клубе такога «казачка» з Максімам-рахункаводам вытанцоўвала, што мімаволі задумаешся...

— Ну-ну-ну!.. — перапыніў яго Мікола.

— Ладна ўжо, — памякчэў Ігнась, — давай рабіць агляд машыны. Ты за ноч даў паўтары нормы, дык няўжо я за дзень менш дам?..

2

З наступнай суботы Ігнась перайшоў у начную змену. Ганкі ён гэтыя дні не бачыў, а цяпер на цэлы тыдзень знікла і магчымасць сустрэцца з ёй. Раніцай ён прыходзіў з поля дахаты стомлены, наспех распранаўся, мыўся, снедаў і лажыўся спаць. Удзень збіралася тая ці іншая работа каля хаты — бацька, маці і малодшая сястра былі заняты ў калгасе, — або трэба было з'ездзіць па якіх-колечы справах на сядзібу МТС, якая знаходзілася за пятнаццаць кіломэтраў ад Койдзіч. К шасці гадзінам вечара Ігнась звычайна ўжо быў на полі, прымаў ад Міколы трактар, рабіў бягучы агляд яго і садзіўся за руль.

З першымі прыцемкамі, спыніўшы на нейкі момант машыну, ён чуў далёкія пералівы гармоніка або дружную дзявочую песню, што даносілася з вёскі. Калгасная моладзь, скончыўшы працоўны дзень, сыходзілася ля клуба. Нельга сказаць, каб Ігнася ў гэты момант нястрымна цягнула туды наогул, але ён ведаў, што там абавязкова прысутнічае Ганка. Гарманіст грае перш за ўсё, як здавалася Ігнасю, з-за яе, а што датычыцца песні, дык гэта ўжо, зусім ясна, — яе справа; Ігнась якбыццам нават улаўліваў яе высокі сакавіты голас. Эх, Ганка, Ганка!.. Ці падказвае табе сэрца, як многа Ігнась думае пра цябе?..

У панядзелак Мікола Лотысь прышоў на змену заклапочаны. Старая кепка, якую ён любіў насіць казырком назад, была, на здзіўленне Ігнася, надзета акуратна, у шпарках і вострых вачах свяцілася задуменнасць. Але гэта быў такі хлопец, у якога ніколі не было за душой сакрэтаў. У супроцьлегласць свайму напарніку, Мікола не мог затаіць у сабе ні на дзень ні крыўды, нанесенай яму, ні радасці. Так і цяпер, не зважаючы на тое, што пры перадачы змены ў гэтую раніцу прысутнічаў іх брыгадзір Якуб Іваненка — рудавусы, суровы з выгляду мужчына, у якога за плячыма было не менш дваццаці гадоў стажу механізатара, Мікола загаварыў пра сваё:

— Ох і дасталося мне ўчора ад Волькі! Скончана наша сяброўства... Я ёй не дарую.

— Чым-жа яна цябе так даняла? — насцярожана запытаў Іваненка.

— А вось чым... Пры людзях заявіла: хоць ты і новы гарнітур апранўў, але і ад яго за кілометр пахне газай і бензінам. Можа ты ў ім і на трактары ездзіш?

— Так і сказала?

— Так і сказала. Мала таго, дык Зося Лісецкіх — ведаеце-ж вы гэтую выскачку, у яе язык, дай божа, які — выскаляецца пры ўсіх: хай, кажа, мне залатыя горы дакляруюць, а за трактарыста я замуж не пайду — хату за ім не праветрыш... Бачыце вы?.. Нібыта да яе нехта з нас думае сватацца... Цьфу ты! — ажно плюнуў Мікола.

— Хм... — многазначна выдыхнуў Іваненка.

— Гэткая-ж размова, лічы, была і са мной, — уставіў слова Ігнась, які дагэтуль моўчкі слухаў Міколу.

— З табой таксама? — не без здзіўлення ўпяў позірк на яго брыгадзір.

— Т-так, — пацвердзіў Ігнась і адвярнуўся.

— Тады я вам скажу, браткі, вось што, — рудыя вусы ў Іваненкі пашырэлі і кончыкі іх прыўзняліся ад усмешкі, — не ад вас першых я чую пра гэта. Хлопцы з астатніх нашых машын выказвалі падобную-ж крыўду...

— От бачыш-жа!... — чамусьці здаволена зазначыў Мікола.

— Правільная крыўда.

— Чаму правільная? — з хітрынкай спытаўся Іваненка.

— Ды таму, — з запалам загаварыў Ігнась, — што і летась і сёлета вясной колькі гаварылі ў МТС пра абсталяванне брыгадных станаў, пра культурны адпачынак, пра той-жа хоць-бы цёплы душ у брыгадах. Дзе-ж гэта ўсё? Няма... Ідзеш з поля, ліха ведае, якую далячынь — запылены, запэцканы, замурзаны, проста сорам з людзьмі спаткацца. А дома хіба табе штодзень лазню паляць, ці там гэты душ цябе чакае?.. Памяркуй вось: механізатар, перадавы чалавек ён у вёсцы, добра працуе, шмат зарабляе, а... дзяўчаты з МТФ ці з свінафермы смяюцца з яго.

— Ганарыстыя дзяўчаты пайшлі — што зробіш! — пажартаваў брыгадзір. — Я поўвека свайго рабіў на трактары, а такога не сустракаў. Можна сказаць, і жаніўся па-людску, і дзеці вунь якія выраслі, поўны парадак...

— Дома ў цябе Лявонавіч, — перабіў яго Мікола, — можа і парадак, а ў нашай МТС ён яшчэ не поўны. Гавораць, абяцаюць, а як да справы, дык і канцоў не знойдзеш...

— Напамінаць трэба, — ужо без ценю жарту параіў Іваненка, — ды не толькі мне, а і вышэйшаму начальству. З канторы-ж МТС да нас заглядаюць ледзь не штодзень.

— Напомнім, калі на тое пайшло, — згадзіліся абодва хлопцы, — скажам, урэшце, на ўвесь голас...

Размовы на полі, як і трэба было чакаць, хутка дайшлі да дырэкцыі МТС. Першым прывёз вестку пра гэта нампаліт, вярнуўшыся позна ўвечары з чарговай паездкі ў брыгады. У вокнах канторы святла ўжо не было — яно гарэла толькі ў кабінеце дырэктара ды ў дыспетчарскім пакоі. Нампаліт, вылезшы з машыны, накіраваўся да дырэктара. Той — дзябёлы, лысеючы ўжо мужчына — сядзеў за сталом, углядаючыся ў дзённую зводку паказчыкаў па МТС, прынесеную нядаўна аграномам-дыспетчарам. Калі ўвайшоў нампаліт, дырэктар злёгку пляснуў далонямі па зводцы і ўрачыста прагаварыў:

— Здарова ідзем, Антон Барысавіч. Зірні вось, якія весткі з брыгад. Пяршынства ў вобласці ў нас трывалае.

— Радуюся, вядома, Захаравіч, гэтаму, — адказаў нампаліт, прысеўшы насупраць дырэктара. — Але да нас з табой ёсць і прэтэнзіі.

— Ад каго? Якія?

— Далёка не ўсё мы яшчэ робім для нашых людзей у брыгадах. А яны вартыя большай увагі. Людзі цудоўныя...

— Не разумею. Жыллём хто-небудзь не забяспечаны? З харчаваннем дрэнна? Або тэхнічная дапамога спазняецца? — запытальна ўставіўся ў твар нампаліта дырэктар.

— Не, не тое... Ты ведаеш, што ў Койдзічах калгасныя дзяўчаты абвясцілі байкот трактарыстам? Сапраўдны байкот. Дарэчы, і не ў адных Койдзічах...

— Ха-ха-ха! — дабрадушна зарагатаў дырэктар. — Нехапала мне большай бяды. Ці ты хочаш, каб я і канфлікты паміж хлопцамі і дзяўчатамі ўладжваў, каб у кожнага сватам быў... От-жа якая бяда!.

— Не, Захаравіч, ты выслухай, — сказаў нампаліт. — Байкот — можа і занадта моцна сказана, але справа не ў гэтым. Хлопцы стараюцца, працуюць з усёй душой, а жывуць усё-ж не так, як трэба: хто дома кіламетраў за пяць-шэсць ад поля, дзе знаходзіцца трактар, хто на кватэры. Не тое, што сабрацца ў вольны час, пагутарыць, пачытаць газету, кнігу ім няма дзе, але і памыцца як след нельга. Дзіва-ж, што спаткаўшы ў калгасе хлопца, вымазанага ў машыннае масла, з заскарузлымі рукамі, кожны скажа: гэта-ж трактарыст...

Дырэктар сагнаў з твару ўсмешку, слухаў нампаліта ўважліва, потым развёў рукамі:

— Што-ж я зраблю, дарагі мой?.. Сродкаў на палявыя станы нам яшчэ не адпусцілі — ты ведаеш сам. Ды і не ў адной нашай МТС такое становішча...

— Не важна — у адной нашай, ці не ў адной, — заўважыў на гэта нампаліт. — З палявымі станамі пакуль не атрымоўваецца — няхай. Дык арганізаваць чырвоныя куткі для трактарыстаў мы можам? Абсталяваць душавыя ўстаноўкі, хоць-бы па адной на брыгаду, у звычайных, скажам, вясковых лазнях таксама можам?

— Наконт чырвоных куткоў справа ясная, — кіўнуў галавой дырэктар, — у тым, што іх няма дагэтуль, вінаваты мы з табой. А вось з душавымі ўстаноўкамі цяжэй. Трэба падумаць...

— Ды і наогул Захаравіч, на быт механізатараў мы забываемся, а пытанняў быту ўзнікае шмат. Я мяркую спецыяльна вынесці гэта на бліжэйшы партыйны сход.

— Дзейнічай, Антон Барысавіч, — адобрыў дырэктар. — Што залежыць ад мяне — можаш не сумнявацца, зраблю.

3

Ганку Ігнась спаткаў выпадкова на вуліцы сярод белага дня. Яна ў стракатай паркалёвай сукенцы, з валасамі, сабранымі пад белую касынку, у лёгкіх тапках на босую нагу, ішла, відаць, з фермы дахаты і, як заўсёды, спяшалася. Яе такой і ведалі ўсе ў калгасе — непаседлівай, рухавай і на рабоце, і дома, і ў асяроддзі моладзі. Энергія ў яе як-бы біла цераз край — усюды Ганка прыдумвала нешта, уносіла весялосць і задор у самую звычайную справу. З ёй ніколі не магло быць сумна. У Ігнася часцей застукала сэрца, калі ён убачыў яе. Ён некалькі збянтэжыўся і хацеў павярнуць у бліжэйшы завулак, але было позна. Ганка сама падышла да яго.

— Чаму гэта цябе не відаць у апошні час? — запытала яна, пасяброўску працягваючы руку.

— Як-жа я мог паказацца, калі ў начной змене працаваў, — пахмурна адказаў ён, але руку паціснуў.

— Злуешся? — голас у Ганкі быў ціхі і ласкавы, а позірк поўны такой пяшчотнасці, што ў Ігнася мільганула радасная здагадка: Ганка сумавала па ім.

— Не... хаця... завошта? — разгубіўся ён.

— Не варта, Ігнась, — проста прамовіла Ганка. — Ну, зрабіла я табе заўвагу, дык што з таго... Не жадала-ж я табе дрэннага. Ды ці адна я рашылася на гэта. Мы з дзяўчатамі часта гаварылі аб вас. Але як вам было перадаць нашыя думкі? Пры людзях, на сходзе? Пакрыўдзіліся-б вы і спрэчка была-б між намі доўгая. Дык мы і вырашылі гэта зрабіць інакш.

— Ого! — ажно падскочыў ад нечаканасці Ігнась. — Выходзіць, вы цэлую змову арганізавалі?

— Але, змову, — засмяялася Ганка, і ў гэтым смеху Ігнась, як і раней, пачуў знаёмыя пераліvы незлічоных званочкаў. — А што-ж вы думалі? — яна задорна ўскінула галаву. — Калі ты трактарыст, дык за цябе любая дзяўчына павінна ўчапіцца? Дарые яна табе ўсё на свеце? Не, мінуў той час. Не багацце́м цяпер прыгожы хлопец, не на багацце яго кветяцца дзяўчаты...

— Я і раней не думаў так, — нібы апраўдваючыся, прагаварыў Ігнась.

— Не пра цябе-ж аднаго гутарка, — перабіла яго Ганка. — А тое, што ты не думаў так, добра. Мір? — і яна зноў працягнула яму руку.

— Мір, вядома, — засмяяўся і ён.

— Прыходзь сёння ў клуб, — сказала яна, адыходзячы. — Абавязкова прыходзь...

Як-жа не радавацца было Ігнасю! Шчырасць Ганкі, яе ласкавы тон, чаканне сустрэчы ўвечары — усё гэта нібы прыўзнімала яго на крыллях. Ён доўга яшчэ стаяў на вуліцы і глядзеў ёй услед, пакуль яе постаць не схавалася ў завулку.

Неяк само па сабе склалася так, што яшчэ да таго, як Іваненка з'ездзіў у кантору МТС на партыйны сход і, сабраўшы назаўтра брыгаду, расказаў, пра што там гаварылі і што вырашылі, хлопцы пачалі, як яны самі казалі, падцягвацца. Той-жа Мікола Лотысь, які заўсёды ганарыўся сваёй старой зашмальцаванай кепкай, павернутай на галаве казырком назад, і які мог нават на вечарынку зайсці ў расхрыстаным рабочым камбінезоне, стаў інакшым. Прыемна было бачыць яго ў гарачы дзень на вуліцы ў белай кашулі з закасанымі рукавамі, а калі ён ішоў у клуб, дык у гарнітуры і — што здзіўляла ўсіх — пры гальштуку

Аднаго шкадаваў Ігнась: не яны самі звярнулі ўвагу на такую, з першага погляду, дробязь, як знешнасць трактарыста ў вольны ад работы час. Падказалі дзяўчаты, а дзяўчатам — у гэтым не было сумнення — яна, Ганка. Як-жа ён тады не зразумеў яе?

— Вы — перадавыя людзі ў вёсцы, — прыгадаў ён гутарку нампаліта ў брыгадзе ў час яго апошняга прыезду, — гэта ясна. Але перадавым трэба быць не толькі ў полі, на рабоце, а і ў штодзённым жыцці, у быту... Каб на кожнага з вас паказвалі з гордасцю: вось ён, наш трактарыст, наш механізатар!

Увечары ў калгасным клубе была невялікая пастаноўка, а пасля яе, як звычайна, танцы.

Днём Ігнась крыху пашкодзіў сабе нагу, завіхаючыся ля трактара, і цяпер не танцаваў, а сядзеў побач з гарманістам. Усё ў яго вачах, у гэты вечар выглядала светлым і радасным. Гарманіст, здавалася, пераўзыходзіў самога сябе. Бурныя хвалі гукаў нібы рассоўвалі сцены клуба, вырываліся праз вокны, плылі ў вячэрнюю сіняву, на калгасную вуліцу, абсаджаную ліпамі і клёнамі, за вёску, у палі, дзе і ў гэты час гулі трактары, а Мікола Лотысь, напэўна, ставіў новы рэкорд выпрацоўкі. Хлопцы і дзяўчаты выходзілі ў круг, спаборнічалі ў танцах, і паўната жыцця, невычарпальная радасць яго адбівалася на іх тварах.

Выйшла ў круг і Ганка з кімсьці з хлопцаў. Як да твару ёй цёмная шаўковая сукенка з алай ружай на грудзях! Як прыгожа мільгаюць яе стройныя ногі ў туфлях на высокіх абцасах! Хто з ёй танцуе — не так ужо і важна для Ігнася. Яму здаецца, што на аднаго яго льецца сіняе святло яе вачэй, аднаму яму накіравана яе ўсмешка, у якой зліваюцца і ласка, і задор, і затоеная сяброўская кпіна. Не, для Ігнася няма на свеце другой такой дзяўчыны.

Няхай танцуе, няхай весяліцца! Усёроўна з вечарынкі яны разам пойдуць начной вуліцай, слухаючы, як перашэптваецца лісце вулічных прысад і як б'юцца ў лад іх сэрцы.

Якая ты слаўная дзяўчына, Ганка! Ігнась зробіць усё, каб быць вартым цябе!

## З ВЫКАЗВАННЯЎ Н. Г. ЧЭРНЫШЭЎСКАГА

(Да 125-годдзя з дня нараджэння.)

Гістарычнае значэнне кожнага рускага чалавека вымяраецца яго заслугамі Радзіме, яго чалавечая годнасць — сілаю яго патрыятызма.

* * *

Для нас недарэчнай з'яўляецца нават думка аб магчымасці іншаземнага прыгнёту.

* * *

Ва ўсіх галінах чалавечай дзейнасці толькі тыя кірункі дасягаюць бліскучага развіцця, якія знаходзяцца ў жывой сувязі з патрэбамі грамадства. Тое, што не мае карэнняў у глебе жыцця, застаецца вялым і бледным, не толькі не набывае гістарычнага значэння, але і само па сабе, без адносін да ўздзеяння на грамадства, бывае нікчэмным...

* * *

Істотныя якасці народнай паэзіі, вартай свайго імя, відавочны з якасцей народа, якому яна належыць, з абставін яе паходжання і ролі, якую іграе яна ў народным жыцці. Народная паэзія развіваецца толькі ў народаў, энергічных, свежых, поўных кіпучага жыцця, шчырасці, годнасці і высокародства.

* * *

Мастацтва адносіцца да жыцця зусім таксама, як гісторыя... гісторыя гаворыць аб жыцці чалавецтва, мастацтва — аб жыцці чалавека.

* * *

Літаратурнага таленту ў мяне няма. Я пішу дрэнна. Доўга, часта нежыццёва. Дзесяткі людзей у нас умеюць пісаць значна лепш за мяне. Мая адзіная вартасць, — але важная, важнейшая за ўсякае майстэрства пісаць, — заключаецца ў тым, што я правільней за іншых разумею рэчы.



* * *

Хто працуе з любоўю, той уносіць паэзію ва ўсякую работу, тым больш у паэтычную.

* * *

Крытыка ёсць меркаванне аб вартасцях і недахопах якога-небудзь літаратурнага твора. Яе прызначэнне — служыць выказнікам погляду лепшай часткі публікі і садзейнічаць далейшаму распаўсюджванню яго ў масе. Само па сабе зразумела, што гэтая мэта можа быць дасягнута ў нейкай меры здавальняючым чынам толькі пры ўсемагчымых клопатах аб якасці, акрэсленасці і прастаце.

* * *

Крытыка наогул павінна колькі магчыма пазбягаць усякіх недасказванняў, агаворак, тонкіх і цёмных намёкаў і ўсіх да таго падобных акалічнасцей, якія толькі перашкаджаюць прамаце і яснасці справы.

* * *

Будучыня, яна светлая, яна прыгожая. Дык гавары ўсім: вось што ў будучыні, будучыня светлая і прыгожая. Любіце яе, імкніцеся да яе, працуйце для яе, набліжайце яе, пераносьце з яе ў сучаснае, колькі можаце перанесці: настолькі будзе светлым і добрым, багатым радасцю і асалодай ваша жыццё, наколькі вы ўмееце пераносіць у яго з будучыні.

Імкніцеся да яе, працуйце для яе, набліжайце яе, пераносьце з яе ў сучаснае ўсё, што можаце перанесці.

Пятрусь БРОЎКА

# Новыя вершы

### Наш дом

Нас Ленін і Сталін усіх гадавалі,
Мы з імі вялізны наш дом збудавалі.

Ад краю да краю прасторны, шырокі —
Пад самае сонца, стаіць ён высокі.

І дзівяцца людзі усюды на свеце,
Як дом гэты шчасцем і дружбаю свеціць.

Стаіць ён, праменнямі сонца abліты,
Жаданаму другу заўсёды адкрыты.

Прад тым-жа, хто злосныя мае намеры,
Наглуха закрыты ягоныя дзверы.

* * *

Такая і мне ўжо часіна прыпала,
Што сэрцам разважыш, як глянеш назад, —
Прайшоў, перажыў ты, як кажуць, нямала,
Пабачыў на свеце цікавага шмат.

А вось каб спыталі, каму я зайздрошчу,
Каму я зайздрошчу найбольш у жыцці,
Сказаў-бы: — Дзіцяці, дапытлівым вочкам,
Што толькі імкнуцца да сэнсу дайсці.

Яму цераз годы шчаслівага плачу,
Прайшоўшы ў далёкі свой шлях па зямлі,
Такое, відаць, давядзецца пабачыць,
Аб чым толькі марыць мы прагна маглі.

Хацелася-б з новым прайсці чалавекам,
Яшчэ раз уцеху ад працы адчуць,
Каб з гэтай паловы дваццатага веку
У век надыходзячы хоць зазірнуць.

### Рахункавод

Ідзе гаворка між дзяўчат,
Ідзе каторы год —
Нідзе такога не спаткаць,
Як наш рахункавод.

Няхай, што ростам невялік, —
Вышэй ад столу ледзь, —
А возьме шчоты — цок ды цок...
Аж люба паглядзець.

А піша — літары, што мак,
Ну, хто зраўніцца з ім?
І сам ён думкі немалой
Аб значанні сваім.

Ён звык, што ў працы у сваёй
Няма яму граніц:
На трыліён, на біліён
Ён можа падлічыць.

І колькі цвету па садах,
І кветак на лугах,
І колькі нават на палях
Зярнят у каласах.

Ён дасканала аб усім
Разлікі падвядзе —
На'т колькі кожная пчала
Прыносіць мёду ў дзень.

Дзяўчаты дзівяцца з яго. —
Усім здаецца люб,
Адна бяда, ў каханні ён,
Як кажуць, ані ў зуб!

Ну, што з таго, што гэткі спрыт,
Што ў лічбах ён герой --
Каханкі-ж, крыўдна, налічыць
Не можа і адной.

### Пусці, маці!..

Ах, як за акном гармонік грае,
Пусці, маці, выйду пагуляю,
Я-ж яшчэ маленькая, малая,
Ён мяне не можа зазываці!..
Пусці, маці!..

Толькі раз, я помню, у нядзелю
З гарманістам трошкі
пасядзела...
Сёння-ж галава мне забалела,
Ці не чадна вельмі ў нашай
хаце...
Пусці, маці!..

Я прайду па вуліцы дзе з боку,
Можа, і паслухаю здалёку —
З гарманістам я не сяду зноўку,
Абыйду, каб толькі не спаткаці...
Пусці, маці!..

### А ты хоць дрэва пасадзіў?..

Дзе дваццаць год таму назад
Ляжаў дзірван акамянелы —
Расцвіў прыгожы, буйны сад,
Паплыў удаль, што ветразь белы.

Нямала тут вясновых дзён
Папрацавалі слаўна людзі,
Каб кожнай яблыняю ён
Усхваляваў нам сёння грудзі.

Ён так святло сваё разліў,
Глядзіш, нацешыцца не можна...
— А ты хоць дрэва пасадзіў?.. —
Няхай сябе спытае кожны.

*Сталінград*

# ЗАБУДОЎВАЮЦЬ ВУЛІЦУ МІРУ



Малады будаўнік Сталінграда Віктар Перапёлкін за працай.
Фота А. Бранцава.

Пасябравалі яны даўно, яшчэ ў школе будаўнікоў ФЗН. Віктар Перапёлкін прыехаў у школу з Урупінска, невялікага раённага гарадка. Раней у Сталінградзе ён не быў, а калі ўбачыў горад, увесь у рыштаваннях новабудоўляў, вырашыў абавязкова стаць будаўніком. Была ў яго на гэта і другая прычына. У Сталінградзе, на адной з гэтых вуліц, у суровы сорак другі год загінуў бацька Віктара, гвардыі старшына Аляксей Перапёлкін.

Віктар добра памятае, які наказ даваў яму бацька, ідучы на фронт:

— Расці, сынок, моцным, здаровым. Вучыся. Перш за ўсё старайся сваімі рукамі шчаслівае жыццё будаваць. Перашкодзілі нам ворагі ненавісныя, не далі закончыць. Ну, ды ты, я думаю, калі са мной што здарыцца, і за мяне даробіш...

І Віктар паехаў у Сталінград.

У школе, у час першага-ж перапынку, Віктар пазнаёміўся з Міколам Вароніным, вучнем з групы сталяроў. Праўда, знаёмства гэтае было не зусім звычайнае. Віктар выйшаў з майстэрні, пакінуўшы непрыбраным сваё рабочае месца. Праз хвіліну яго дагнаў майстар.

— Ты, Перапёлкін, да парадку прывыкай. Будоўля — гэта табе не шавецкая майстэрня, — з дакорам сказаў ён.

Віктар заліўся чырванню: ён на самай справе прышоў у школу ФЗН з Урупінскай шавецкай майстэрні.

За спіной у майстра Віктар убачыў маленькага хударлявага «фабзайчыка». «Яго яшчэ нехапала тут!.. Цяпер па ўсёй школе раззвоніць», — падумаў ён.

Калі майстар пайшоў, хлопец падміргнуў Віктару і з насмешкай сказаў:

— Ну, што, перапёлачка, атрымаў?

— А табе што да гэтага? — незадаволена адказаў Віктар і пакрочыў у майстэрню.

Але хлопец дагнаў яго і весела, са спагадай сказаў:

— А ты не крыўдуй. Мяне ў першы дзень таксама майстар прабраў, ды яшчэ мацней, чым цябе.

Віктар спыніўся.

— А ты даўно ў школе? — ужо цяплей запытаў ён.

— Два тыдні. А ты калі прыехаў?

— Учора.

Зазвінеў званок. Новы знаёмы падаў Віктару руку і на хаду крыкнуў:

— Прыходзь сёння ў чырвоны куток! Пагаворым!

Так пачалося сяброўства паміж Віктарам Перапёлкіным і Міколам Вароніным. Да іх далучыўся мазаічнік Васіль Тамбоўцаў. Утрох яны часта хадзілі на стадыён, у кіно, на комсамольскія сходы. Сяброўства ўзнікла непрыкметна. У новым інтэрнаце яны пасяліліся ў адным пакоі.

Седзячы за сталом, яны гавораць пра будоўлю.

— Мяне на планетарый пераводзяць, гранітчыкам. Спецыяльнасць новая, цяжка будзе за вамі ўгнацца...

І вось між імі заключана сяброўская ўмова.

— А мы гэта ўлічым, — кажа Варонін. — Ну, на першы раз норму выканаеш?

— Думаю, што выканаю.

— Правільна. Палохацца няма чаго.

На другі дзень, прышоўшы з работы, Віктар моўчкі ўзяў венік і пачаў падмятаць пакой. Васіль нахмурыўся, а Мікола спачувальна ўздыхнуў: значыць, дрэнныя справы ў Віктара.

Закончыўшы падмятаць, Віктар прысеў на крэсла. Твар у яго быў сумны, вочы задуменныя. Маўчалі і сябры. Потым Васіль Тамбоўцаў ціха запытаў:

— Ты ведаеш, Віця, што такое планетарый?

— Чытаў, — неахвотна адказаў Віктар.

— Што ты чытаў?

— Ды тое, што планетарый — гэта дзе зоркі, месяц вывучаюць...

Васіль падсеў да яго, паклаў руку на плячо сябра.

— У цябе, Віця, не проста будаўнічы аб'ект, — задушэўна сказаў ён. — Па-першае, ты будуеш такое памяшканне, у якім людзі будуць глядзець у аптычныя прыборы на сусвет. Мы шмат цікавага пазнаем у планетарыі. А па-другое, ты ведаеш гісторыю гэтага планетарыя?

— Чуў... падарунак ад нямецкага народа, — адказаў Віктар, сцягваючы з сябе спяцоўку.

— О то-та-ж!

Назаўтра раніцой брыгадзір гранітчыкаў Уладзімір Маноха сказаў Віктару:

— Пойдзеш у маю тройку... А пасля работы крыху затрымайся. Пісьмо будаўнікам Мінска падпісваць будзем.

Пісьмо! Проста сказаць, пісьмо падпісваць. Уладзіміру, вядома, можна, у яго кожны дзень па дзве, па тры нормы атрымліваецца. А з чым прыдзе Віктар? Якімі вачыма ён будзе глядзець на брыгадзіра, на таварышаў, якія будуць расказваць сябрам аб сваіх выдатных справах на будоўлях Сталінграда? Не, яму, напэўна, не прыдзецца падпісваць гэтае пісьмо. А што скажа ён Васілю і Міколаю? Яны-ж абавязкова аб усім даведаюцца.

Хаваючы вочы ад Манохі і свайго напарніка гранітчыка, ён узяўся за работу.

— Рыхтуй пліты! — загадаў Маноха. — А ты, Макееў, падавай раствор!

Сам Маноха стаў на кладку пліт. Работа спорылася.

Віктар прыкмеціў, што іх тройка хутка прабіваецца наперад. Пліты кладліся адна за другой, і брыгада ішла ўсё далей і далей уздоўж фасада будынка. Прыглядзеўшыся, Віктар зразумеў, у чым заключалася прычына поспеху. Здавалася, нязначную змену унёс Уладзімір Маноха ў арганізацыю работы, а справа пайшла зусім інакш. Раней Віктар разам з другімі гранітчыкамі больш увагі аддаваў укладцы пліт. Падрыхтоўка раствору і падача матэрыялу лічыліся справай другараднай. А Маноха размеркаваў сілы аднолькава. І атрымалася, што адзін дапамагае другому. І лёгка, і хутка. Віктар павесялеў, і малаточак у яго руках замільгаў яшчэ хутчэй.

Да вечара прайшлі семнаццаць метраў, — у тры разы больш, чым патрабавалася па норме.

— Добра папрацаваў!.. — сказаў Маноха Віктару. — Праз тыдзень тройку прымеш.

— Тройку?!. — радасна і адначасова са спалохам запытаў Віктар.

— Што, баішся? — усміхнуўся брыгадзір.

— Страшнавата, але... — і, радасна бліснуўшы вачыма, смела сказаў: — Здужаю!

У яго голасе было столькі ўпэўненасці, што брыгадзір зразумеў — такі здужае.

— Добра, аб гэтым мы яшчэ пагаворым, — з цеплынёй у голасе сказаў Маноха. — А зараз — у прарабскую. Пісьмо будзеш падпісваць...

Віктар шчасліва ўсміхнуўся і глянуў на горад. Проста перад ім ляжала роўная, як страла, вуліца Міру. Удалечыні, за плошчай, бялелі калоны драматычнага тэатра. Яго сцены ўзводзіў муляр Віктар Перапёлкін. Побач з тэатрам узвышаўся пяціпавярховы дом цэнтральнай гасцініцы. І там ён працаваў.

Віктар паглядзеў на горад і ў кожным яго доме, у кожным ажыўшым пасля вайны кутку бачыў плён сваёй працы. Таму горад здаваўся больш родным і даражэйшым. Так, ён стаў будаўніком Сталінграда.

Позірк Віктара спыніўся на праспекце імя Сталіна. Там сёння за дзень падняўся намнога вышэй, чым учора, новы дом. На будаўніцтве яго працавалі Мікола і Васіль.

Адначасова Віктар успомніў і пра сваіх далёкіх сябраў, пра мінскіх будаўнікоў, з якімі спаборнічаюць сталінградскія будаўнікі, у тым ліку і ён, гранітчык Віктар Перапёлкін. Малады сталінградскі будаўнік быў упэўнены, і не без падставы, што праспект імя Сталіна ў сталіцы Совецкай Беларусі забудоўваецца вось гэтакжа хутка і прыгожа, як і праспект імя Сталіна, вуліца Міру і іншыя вуліцы ў яго родным горадзе. Не сумняваўся Віктар, што на новабудоўлях Мінска працуюць таварышы яго ўзросту, комсамольцы, якія паказваюць прыклады ў рабоце, вучобе. Ім, мінскім сябрам, сталінградскі будаўнік пасылае ў думках сваё сардэчнае, сяброўскае прывітанне.

**В. ДРОБАТАЎ.**
г. Сталінград.

Новыя жылыя дамы на праспекце імя Сталіна ў Сталінградзе.



# ЗАБУДОЎВАЮЦЬ ПРАСПЕКТ ІМЯ СТАЛІНА

Яшчэ дыміцца параю раса на лісцях дрэў, на траве і кветках газонаў, яшчэ маладое сонца паднялося не так высока над горадам, а шматпавярховы інтэрнат трэста № 2 «Галоўмінскбуда» ўжо даўно прачнуўся. Жыхарам інтэрната — мулярам, тынкоўшчыкам, сталярам, юнакам і дзяўчатам, — трэба ісці на работу ў восем гадзін раніцы, заняць свае месцы на рыштаваннях, падмостках новабудоўляў сталіцы.

Інтэрнат бурліць. А пад восьмую гадзіну ён заціхае, — жыхары яго ў гэты час на рабоце ў многіх раёнах горада.

На рабоце і тынкоўшчыкі брыгады Івана Зміцравіча Нікалаева. Яны робяць унутраную атынкоўку Палаца культуры на Цэнтральнай плошчы.

Праходзячы ў такія хвіліны каля Палаца культуры, ад усёй душы радуешся за шчаслівых будаўнікоў, за іх неўгамонную маладосць, жыццерадаснасць. Радуешся, што ў цэнтры сталіцы, па суседству з манументам І. В. Сталіна на праспекце яго імя вырастае такі велічны, увесь у вялізных прыгожых калонах палац.

Палац яшчэ ў рыштаваннях, вокны ў ім не зашклёны, аднак ён нават і ў такім выглядзе ўяўляецца нібы даўно абжытым, — у ім звіняць бадзёрыя галасы будаўнікоў.

Трапіўшы па шырокіх дошках страмянак, якія замяняюць лесвічныя маршы, на другі паверх, мы засталі за работай Насцю Аўтушэнка. Не заўважаючы староннiх, яна спявала. Песня была пра вясну, пра кветкі, звычайная і ў той-жа час незвычайная песня шчаслівай дзяўчыны. Заўважыўшы прысутных, Насця схамянулася, змоўкла і зачырванелася.

— Добры дзень, таварыш Насця!

— Добры дзень! — адказала дзяўчына, і раптам у яе вялікіх блакітных вачах успыхнулі іскаркі смеху. — Толькі я не Насця, а Надзя!

— Як-жа гэта так? Мы памыліліся?

— І памыліліся і не памыліліся... Мне лепш падабаецца імя Надзя. Завіце мяне Надзяй.

— Што-ж, будзем называць цябе Надзяй.

Бацькі Надзі загінулі ў час Айчыннай вайны, у сорак трэцім годзе. Брат і сястра былі ў партызанах... Пасля вызвалення дзяўчына была ў дзіцячым доме, потым вучылася ў школе будаўнікоў ФЗН.

Скончыўшы школу, у 1950 годзе Надзя прышла ў брыгаду Нікалаева. У першыя-ж дні яна заваявала павагу, як добрая работніца. Цяпер яна выконвае норму ў сярэднім на дзвесце працэнтаў, а ў асобныя дні, калі няма затрымкі з матэрыяламі і ўсё ў парадку са сталярнымі работамі — і на трыста працэнтаў.

Групорг Мікола Паўловіч, невысокага росту юнак з цёмным чубам пад невялічкім казырком шапкі, часцей за ўсё задуменны, сур'ёзны. У яго многа клопатаў, бо яму часцей за ўсё даручаюць выконваць больш адказныя работы: ставіць рэйкі, цягнуць карнізы і іншае. Трэба-ж сачыць і за работай комсамольскай групы, дапамагаць ім. А група немалая — васемнаццаць чалавек.

Вось ён стаў каля толькі што атынкаванай сцяны. Працавала тут Ніна Мядзведзева са сваёй сяброўкай Валяй Лебедзевай. Прыжмурыўшы вока, Мікола прыцэліўся па сцяне...

— Ніна, Валя! — крыкнуў ён. — А вы, здаецца, завалілі сцяну.

Падбеглі Ніна і Валя. На тварах дзяўчат — спалох. Не жартачкі — дапусціць брак у рабоце!

— Не можа быць! — у адзін голас запярэчылі дзяўчаты. — Праверылі рэйкай сцяну, — дарэмна хваляваліся: работа выканана добра. Сяброўкі лёгка ўздыхнулі...

— Мы зробім — перарабляць не трэба! — з гонарам сказала Валя.

І гэта так. Якасць іх работы, як правіла, заўсёды добрая і выдатная.

Ніна Мядзведзева з Віцебшчыны. Ёй дзевятнаццаць год. Бацька яе загінуў на фронце ў час Айчыннай вайны. Сям'я жыла на часова акупіраванай тэрыторыі. У сорак трэцім годзе цяжка захварэла маці. Ніну, як і многіх другіх дзяцей, фашысты вывезлі ў калонію, якая знаходзілася ў Аўстрыі.

Першым самым шчаслівым днём у жыцці Ніны Мядзведзевай быў дзень вызвалення яе з фашысцкай няволі. Дзяўчынку падхапілі на рукі совецкія танкісты і асцярожна пасадзілі на яшчэ цёплы пасля нядаўняй стральбы ствол гарматы. Частавалі салдацкім цукрам, сухарамі... Той шчаслівы дзень Ніна ніколі не забудзе.

Потым — дзіцячы дом, школа ФЗН, і вось Ніна Мядзведзева — тынкоўшчыца. Стаханаўка. Яе паважаюць, ёю ганарацца сябры. Яна — член камітэта комсамола.

— Спачатку, пасля школы ФЗН, — успамінае Ніна, — было нялёгка. Рабіць, як трэба, мала што ўмела, ды і навыку не было. А потым сябры дапамаглі. Многім я абавязана брыгадзіру Івану Зміцравічу. Ён навучыў мяне працаваць. А то і кельму не ўмела як след трымаць...

Ніна вучыцца ў шостым класе вячэрняй школы рабочай моладзі. Яе мара — закончыць сем класаў, а потым паступіць у тэхнікум. Які — яшчэ не вырашыла.

З выгляду Ніна — кволая дзяўчына з маленькімі рукамі. Але прыглядзішся і верыш, што сілы, настойлівасці ў яе многа. Яна сваімі маленькімі рукамі моцна трымае жыццё.

Усе маладыя рабочыя ў брыгадзе Нікалаева — выдатныя работнікі. Пра кожнага з іх можна было-б расказаць многа добрага, павучальнага.

Брыгадзір Іван Зміцравіч Нікалаеў — комуніст, яму каля трыццаці пяці год, але выглядае ён значна маладзей. Можа гэта таму, што стаіць на чале такога слаўнага маладога калектыва, а сярод маладых і сам будзеш маладзейшым.

Нікалаеў узначальвае брыгаду з 1949 года. Гэтая брыгада з'яўляецца своеасаблівай школай маладых рабочых. За час свайго існавання яна вылучыла дзве брыгады тынкоўшчыкаў, якія цяпер узначальваюць комсамолка Анна Супрановіч і Сяргей Шыраеў.

— Не цікава, калі ты, як кажуць, першы хлопец у вёсцы, а ў той вёсцы — адзін дом, — смяецца Іван Зміцравіч. — Вось таму нашай задачай і з'яўляецца пашыраць колькасць стаханаўскіх брыгад. Я заўсёды з радасцю дапамагаю таварышам. Мая брыгада вылучыць яшчэ не адну брыгаду. Вопытныя майстры набяруць сабе вучняў і, глядзіш, — праз некаторы час новыя стаханаўскія брыгады вырастуць. — Іван Зміцравіч на хвіліну змоўк, а потым, падумаўшы, дадаў: — І хоць мая брыгада і я дапамагаем таварышам, ствараем новыя брыгады, але пяршынства нікому ў рэспубліцы не ўступім. Хочацца быць першым хлопцам у горадзе, хоць у гэтым горадзе і дзесяткі тысяч дамоў, — і брыгадзір усміхнуўся свайму жарту.

Іван Зміцравіч са сваёй брыгадай працуе па метаду вядомага маскоўскага будаўніка Івана Куцянкова. Больш таго, ён стаў не толькі яго гарачым паслядоўнікам, але і ўнёс у яго метад многа свайго, каштоўнага.

Мінскія будаўнікі, у тым ліку і брыгада Нікалаева, спаборнічаюць з будаўнікамі Сталінграда. Бывалі сталінградцы ў гасцях у мінчан. Разам з мінчанамі ездзіў у Сталінград і Іван Зміцравіч. Дружба будаўнікоў двух гарадоў мацнее з кожным годам.

Сталінградцы хуткімі тэмпамі забудоўваюць праспект імя Сталіна, вуліцу Міру, шматлікія вуліцы, плошчы свайго горада-героя.

Мінскія будаўнікі таксама з вялікім поспехам забудоўваюць праспект імя Сталіна, вуліцу Леніна, шматлікія вуліцы, плошчы сталіцы Совецкай Беларусі.

**А. РЫЛЬКО.**



**Яны з гонарам нясуць сцяг соцыялістычнага спаборніцтва будаўнікоў Мінска і Сталінграда. Маладыя тынкоўшчыкі брыгады І. Нікалаева, якія будуюць дом на праспекце імя Сталіна ў Мінску.** На здымку (злева направа, у першым радзе): **В. Лебедзева, Н. Мядзведзева, Н. Аўтушэнка;** (у другім радзе): **М. Паўловіч, брыгадзір І. Нікалаеў, В. Вітkоўскі.**

Фота А. Дзітлава.



На праспекце імя Сталіна ў Мінску.



Владзімір Маякоўскі.

В. БУРНОСАЎ

# ВЕЧНА МАЛАДЫ

19 ліпеня споўнілася 60 год з дня нараджэння любімага паэта савецкага народа Владзіміра Маякоўскага.

Характарам сваёй баявой творчасці, аблічам паэта-грамадзяніна Владзімір Маякоўскі ўвайшоў у гісторыю як сімвал маладосці, неперажнасці новага жыцця, як зара новай, савецкай эпохі на шляху чалавецтва.

Як Горкі пачаў свае універсітэты жыцця з цяжкай, паднявольнай працы і паліцэйскіх праследаванняў, так Маякоўскі пачаў непасрэднае азнаямленне з тагачаснай рэчаіснасцю з малюнкаў жахлівай расправы жандараў над дэманстрантамі, а пасля з адзіночнай камеры Бутырскай турмы, куды пятнаццацігадовы юнак быў пасаджаны за ўдзел у рэвалюцыйным руху і прыналежнасць да Расійскай соцыял-дэмакратычнай рабочай партыі.

Агнём нянавісці да эксплуататарскага ладу прасякнуты першыя вершы юнака. Маякоўскі пратэстуе супраць крывепралітнай імперыялістычнай бойні, распачатай у 1914 годзе. Літаратурныя выступленні маладога паэта былі заўважаны Аляксеем Максімавічам Горкім. Творы В. Маякоўскага друкуюцца ў горкаўскім часопісе «Летапіс». Пры дапамозе Аляксея Максімавіча з друку выходзіць першы зборнік паэта «Простае, як мычанне».

Калі адбылася Вялікая Кастрычніцкая социялістычная рэвалюцыя, Маякоўскі выказаў да яе свае адносіны такімі простымі словамі: «Мая рэволюцыя». З першых-жа дзён рэволюцыі паэт уключыўся ў актыўную, самаадданую працу на карысць савецкай улады.

У грозныя дні, калі маладая савецкая рэспубліка была акружана з усіх бакоў бандамі інтэрвентаў, у друку адзін за другім з'яўляюцца творы паэта, у якіх выкрываліся злачынныя планы міжнароднай буржуазіі, дзе паэт паказваў велізарнейшае значэнне цеснага еднання народа вакол Комуністычнай партыі, горача ўслаўляў гераізм воінаў толькі што створанай Чырвонай Арміі, бязлітасна асуджаў баязлівасць, дызертырства, абывацельшчыну.

Маякоўскі — лепшы друг усяго новага, перадавога і бязлітасны вораг усяго ўстарэлага. Паэт накіроўваў агонь сваёй бязлітаснай сатыры супраць бюракратызма, мяшчанства, падхалімства, нізкапаклонства перад прагніўшай буржуазнай культурай. У газеце «Известия» быў надрукаваны верш паэта «Празасяданыя», у якім саркастычна высмейваецца мітусня бясконцых паседжанняў, бюракратычная шуміха. Гэтаму вершу даў высокую ацэнку Владзімір Ільіч Ленін, які, прачытаўшы яго, сказаў, што даўно «...не адчуваў такога задавальнення, з пункту гледжання палітычнага і адміністратыўнага».

Маякоўскі няспынна напамінае, што самае галоўнае, самае дарагое ў нас гэта наша соцыялістычная краіна, якая, як маяк, паказвае чалавецтву шлях да шчасця і свабоды.

Паэт многа разоў быў за межамі СССР. Кожны раз ён выступаў там як сын сваёй краіны, як верны сын савецкага народа і як прадстаўнік комунізма. За знешнім блескам раскошы і багацця Злучаных Штатаў Амерыкі, за шыльдай амерыканскай «свабоды і дэмакратыі» паэт убачыў сапраўдную жахлівую карціну бязлітаснай эксплуатацыі простага чалавека, панаванне воўчых законаў капіталізма. Шмат радкоў прысвяціў паэт выкрыццю драпежніцкіх планаў падпальшчыкаў войнаў.

Творчасць Маякоўскага — гэта невычарпальная энцыклапедыя жыцця нашай краіны ў першыя гады пасля рэволюцыі, гэта летапіс будаўніцтва соцыялізма, гімн славы савецкаму народу і Комуністычнай партыі. Маякоўскі першым у савецкай літаратуры стварыў неўміручы вобраз вялікага Леніна як самага чалавечнага чалавека ўсёй зямлі.

Кожны чытач, будзь ён рабочы, калгаснік ці інтэлігент, рускі ці грузін, украінец ці беларус, адчувае, як блізка і дорага для яго творчасць вялікага паэта.

Асабліва вялікае значэнне мае творчасць Маякоўскага для выхавання нашай моладзі. У яго вершах і паэмах савецкія юнакі і дзяўчаты знойдуць адказы на свае запаветныя думы і пачуцці. Гэтыя творы дапамогуць маладому пакаленню зразумець сапраўдную сутнасць прыгожага ў жыцці і сутнасць адмоўнага, агіднага. Гэтае прыгожае — у пафасе барацьбы за комунізм, у героіцы стваральнай працы, у самаадданым служэнні савецкай Радзіме, свайму народу. Агіднае, адмоўнае, варожае — у капіталістычным свеце, у перажытках капіталізма. Малады савецкі грамадзянін знойдзе ў творах паэта многа непасрэдных зваротаў да яго асабіста.

Творчая біяграфія паэта неадрыўна ад гісторыі комсамола. Маякоўскі быў самым актыўным удзельнікам усіх мерапрыемстваў комсамола. Ён быў пажаданым госцем на комсамольскіх сходах, дыспутах, дзе выступаў з прамовамі, з чытаннем сваіх вершаў. Большасць яго вершаў аб моладзі друкавалася на старонках «Комсамольскай праўды», карэспандэнтам якой быў паэт.

У такіх вершах, як «Кастрычнік», «Комсамольская», «Марш комсамольца», «Маладая гвардыя», «Сакрэт маладосці», «Студэнту-пралетарыю», «Уперад, комсамольцы!», «Марш ударных брыгад» і іншых, Маякоўскі ўслаўляў гераізм і самаадданасць савецкай моладзі і паэтычнымі сродкамі ярка раскрыў тое становучае і добрае, чаму малады патрыёт павінен вучыцца, з каго браць прыклад. «Таварышы моладзь, пагляд на Маскву!» — усклікае паэт.

Масква нам
не толькі
з родных радней,
хоць ёю мы ўсе ўскалыханы,
Масква
не як рускаму дорага мне,
Масква — мне як сцяг палымяны.

Паэт гаворыць, што калі-б ён быў нават неграм старых гадоў, і то вывучыў-бы рускую мову толькі за адно тое, што на ёй размаўляў Ленін. Маладосць — гэта дар, гэта вялікае шчасце. Малады не той, гаворыць паэт, хто растрачвае сваю сілу і энергію на пустыя справы, а той, хто ідзе ў радах перадавых барацьбітоў за комунізм, хто рыхтуе з сябе мужнага абаронцу Радзімы, хто настойліва авалодвае вышынямі навукі, тэхнікі, хто самаадданa працуе на фабрыках, заводах, на калгасных палях.

Маякоўскі ўказваў на вялікую ролю комсамольцаў у барацьбе за новую, соцыялістычную мараль, у будаўніцтве культурнага савецкага быту, моцнай сям'і. Паэт высмейвае дурняў, якія захапляліся буржуазнай культурай, мяшчан, падхалімаў, гультаёў, невукаў. Каб адчуць усю сілу сатырычнага агню паэта, дастаткова прачытаць хаця-б такія вершы, як «Маруся атруцілася», «Нагрузка па макушку», «Хто ён?», «Тып», «Падліза», «Ханжа», «Пляткар».

Прыкладам для савецкай моладзі, для комсамольцаў з'яўляюцца іх старэйшыя таварышы — комуністы, выдатныя дзеячы партыі.

Юнаку,
што абдумвае
сваё быццё,
вырашае —
вучыцца-б жыць з каго,
скажу
без развагі:
— Рабі жыццё
з таварыша Дзержынскага.

Так піша паэт у сваёй паэме «Добра!»

Як цудоўная песня маладосці новага свету гучаць заключныя радкі гэтай паэмы:

Год да ста
расці
нам
без старасці.
З году ў год
расці
ўсё бадзёрасці.

І. В. Сталін назваў Владзіміра Маякоўскага лепшым, таленавіцейшым паэтам савецкай эпохі і тым самым вызначыў яго значэнне як найвялікшага майстра соцыялістычнай літаратуры і як палымянага змагара за комунізм. Жыццё з кожным годам усё глыбей і ярчэй раскрывае вялікую ролю паэзіі Маякоўскага ў комуністычным выхаванні працоўных і, у прыватнасці, моладзі.

Владзімір МАЯКОЎСКІ

## САКРЭТ МАЛАДОСЦІ

Не,
то не тыя «моладзь»,
хто, забраўшыся
у чоўнах далей,
ад бяздзелля
крычаць, скуголяць
І гарэлку
без меры смаляць.
Не,
то не тыя «моладзь»,
хто вясною
начамі харошымі,
раскрыўляны
апошнімі модамі,
падмятаюць
бульвары клёшамі.
Не,
то не тыя «моладзь»,
хто жыцця
маладога зарава,
ледзь адчуўшы
зуд кволы,
на раманы
разбазарвае.
Хіба
гэта моладасць!
Не!
Мала
быць
маладым па вясне.
Малады —
гэта той,
хто байцоў каб
рады
патроіць,
скажа ўсёй
дзетвары
залатой:
«Мы
жыццё пераробім зямное!»
Малады —
гэта імя —
дар
тым,
хто ўліт у баявы КІМ,
тым,
хто б'ецца,
каб працы цяжар
чалавеку быў
не цяжкім!

Пераклад Р. НЯХАЯ.


КРАСНАЯ СМЕНА

Четверг, 12 апреля 1923

Для „Красной Смены"

В. Маяковский

НЕ ДЛЯ НАС ПОПОВСКИЕ ПРАЗДНИКИ

Верш В. Маякоўскага, напісаны для газеты «Чырвоная змена» і ўпершыню надрукаваны ў ёй у 1923 годзе.

Іван ГРАМОВІЧ

# Незабыўны ПЕРАЛЁТ

...Світанне 2 ліпеня 1938 года ў Севастопалі.

Самалёт узняўся над бухтай, зрабіў круг над яшчэ сонным горадам, набраў вышыню і ўзяў кірунак на поўнач. Гідрасамалёт на паплаўках, зроблены на айчынным заводзе для паветраплавання над морамі нашай краіны, а паляцеў ён — над сушай.

У кабінах самалёта знаходзіліся тры адважныя пілоты — Паліна Асіпенка, Вера Ламака і Марына Раскова. Бадай што мала хто ведаў тады пра іх: пра Паліну, былую батрачку з сяла Новаспасаўка Днепрапятроўскай вобласці, пра Веру — дачку гомельскага каваля і трэцюю — Марыну, дачку настаўніцы і музыканта з Масквы. Звычайныя савецкія дзяўчаты. Аднак слава аб іх абляцела ў той ліпеньскі дзень з краю ў край.

Гідрасамалёт, развітаўшыся з Чорным морам, ляцеў строга на поўнач. Яго вабілі нязведаныя прасторы, імкнула выпрабаванне сіл, укладзеных дужымі рабочымі рукамі ў кожную дэталь механізма, клікаў подзвіг, на які здольны толькі нашы, савецкія жанчыны.

Узыйшло сонца — спадарожнічаць мужным лётчыцам. І яны ўбачылі ўнізе, пад крылом, залацістыя збожжавыя стэпы поўдня. Тут, над украінскімі стэпамі, абяцала быць спёка, а наперадзе іх чакала невядомая далечыня. Ляцелі да Белага мора. Ад Херсона да Кіева ніводнага азярца або воднага месца, каб у крайнім выпадку прысесці, слізгануць па хвалях паплаўкамі гідраплана... На ім цяжар — 5512 кілаграмаў.

Толькі спакойна ішла машына і роўна гудзеў матор. Самалёт вялі надзейныя рукі дзяўчат, абветраных, загарэлых ад севастопальскіх промняў за час трэніровак. На выпадак не разлічвала чырвонакрылая птушка. Яе ўладарыўладзіцелі былі ўпэўнены ў сваёй вопытнасці і ўменні, яны дасканала вывучылі машыну і падрыхтавалі яе ў дарогу. Работа матора была падобна для кожнае з іх на стук уласнага сэрца.

Недарэмна Клімент Ефрэмавіч Варашылаў, даючы ім дазвол у палёт, з бацькоўскім клопатам напамінаў тэлеграмай: «... Яшчэ раз старанна праверце матэрыяльную частку. Жадаю поўнага поспеху».

За Кіевам гідраплан пайшоў сляпым палётам сярод суцэльных воблакаў, але скорасць яго не зменшылася. Наадварот!

Спартыўныя назіральнікі, што сачылі за яго рэйсам, пра які штурман Марына Раскова няспынна паведамляла па рацыі, думалі, што самалёт будзе рабіць 170—180 кіламетраў у гадзіну. А ён пачаў ляцець са скорасцю 230, а потым 250 кіламетраў.

...Раптам навальніца, дождж.

Затым самалёт трапіў у паласу цыклона: плоскасці машыны пачалі пакрывацца скарынкай ільду.

Суровыя цяжкасці сустрэлі на сваім шляху лётчыц.

У тым годзе народны паэт Янка Купала, да гэтага склаўшы вядомую песню пра Алесю, што паляцела самалётам гонкім, пісаў:

Цераз віхры, навальніцы,
У глухіх прасторах,
Шляхі значылі арліцам
Крэмлёўскія зоры.

Ламака Вера, другі пілот і бортмеханік экіпажа, калі на карце маршрута абазначыліся месцы Беларусі, радасна сказала да Асіпенка, з якой сядзела побач:

— Паліна, Гомель! Мой родны горад...

Гомель — горад, адкуль Вера паехала вучыцца і дзе ў той момант, як яны праляталі, у дэпо паравозарамонтнага завода з малатком у руках стаяў Фёдар Ламака, верын бацька, стары чыгуначнік. Вера, комсамолка, да 1930 года працавала фармаўшчыцай на «Гомсельмашы». Працавала і штогод настойліва дабівалася сваёй запаветнай мэты — на самалёт, лятаць! Для моладзі авіяцыя — самая любімая і захапляючая мара. А тут — бяда: яна — дзяўчына. Няпоўналецце, адпаведны дазвол — усё перашкаджала добраахвотніцы ўзляцець да неба. Адзін год, другі, але за трэцім разам ёй удалося здзейсніць свае намеры.

То не на імя Веры кукавала зязюля ў зялёным лесе, але сапраўды сталася так, што якраз у гэтую пару нараджэння Купалавай песні Вера, закончыўшы авіяцыйную школу, крыллямі свайго самалёта калыхала воблакі паднябесся.

Якая радасць споўненых жаданняў! Даўняя мара маленства зрабілася яваю! Ужо да 1938 года Вера Ламака на знішчальніку некалькі разоў удзельнічала ў авіяцыйных першамайскіх парадах над Краснай плошчаю Масквы...

...Гідрасамалёт над Гомелем ляціць за хмарамі. А ў дэпо працуе верын бацька. Ён родам з закінутай калісьці вёскі Закружкі, на Міншчыне. Яшчэ на зыходзе мінулага веку кінуў панскія заработкі і наняўся рабочым у Мінску. Наняўся, ды неўзабаве, як забастоўшчык, быў сасланы ў сібірскую дальнюю старану.

З 1905 года ён у Сібіры. Омск... Там нарадзілася Вера, там рабочы Ламака, комуніст з 1917 года, з партызанамі хадзіў на белых, дзе і быў цяжка паранены. Ён змог вярнуцца ў Беларусь толькі пасля рэволюцыі.

Сяброўкі ведалі гэта, ведалі мінулае сям'і Ламака. Паліна і Марына чулі ад Веры, што яе дзіцячыя гады праходзілі над сібірскай ракой Іртыш. І калі зараз, у час палёту, яна вырашыла падаць вестку аб сабе дадому, у Гомель, экіпаж дружна згадзіўся.



**Удзельніцы гераічнага пералёту Севастопаль — Архангельск.** (Злева направа): **Марына Раскова, Вера Ламака і Паліна Асіпенка (1938 год).**

Пад крыллямі срабрыстая коўдра хмар.

Пісьмо было ўкладзена ў скрыначку з адрасам, якую прывязалі да вымпела з парашутам, і... хлапчукі знайшлі яго каля насыпу чыгункі, а пад вечар прынеслі бацькам Веры Фёдараўны.

У тую мінуту, калі бацька і маці чыталі пісьмо дачкі, яна ўжо знаходзілася далёка, ля Архангельска. Ля самага мора, на Холмаўскім возеры, самалёт зрабіў пасадку.

Ад Чорнага да Белага мора гідрасамалёт праляцеў без пасадкі над сушай 2416 кілометраў за 10 гадзін 33 мінуты.

Гэта быў гераічны пералёт гераічных жанчын.

Іх подзвіг напоўніў радасцю сэрцы ўсіх совецкіх людзей. Пералёт паказаў усім мужнасць і адвагу нашых жанчын, поўных гарачых патрыятычных пачуццяў, поўных любві да сваёй соцыялістычнай Радзімы.

Кіраўнікі партыі і ўрада прыслалі ў Архангельск віншавальную тэлеграму:

> «Горача вітаем слаўных лётчыц тт. Паліну Асіпенка, Веру Ламака і Марыну Раскову з паспяховым выкананнем беспасадачнага пералёту на гідрасамалёце па маршруту Севастопаль — Архангельск.
>
> Ганарымся мужнасцю, вытрымкай і высокім майстэрствам совецкіх жанчын-лётчыц, якія запісалі сваім бліскучым пералётам яшчэ адзін рэкорд у гісторыі совецкай авіяцыі.
>
> Моцна цiснем Вашы рукі.
>
> **І. В. Сталін, В. М. Молатаў, К. Е. Варашылаў, М. І. Калінін, Л. М. Кагановіч».**

Гэта былі пачуцці ўсяго народа, прызнанне і падзяка Радзімы. Трох сваіх дачок народ празваў адважнымі, смелымі, слаўнымі.

Яны вярталіся з Архангельска ў Маскву, і на кожнай станцыі іх цягнік людзі сустракалі з кветкамі. Усе ішлі пабачыць, павіншаваць сваіх гераінь.

Асіпенка, Ламака і Раскова як жанчыны-пілоты упершыню ў гісторыі совецкай авіяцыі паспрабавалі пакарыць нашы паветраныя прасторы. У гэтай тройцы—штосьці сімвалічнае: Вера Ламака — работніца, Паліна Асіпенка — калгасніца, а Марына Раскова — інтэлігент.

Самалёт зрабіў пералёт за трынаццаць дзён да адкрыцця Першай Сесіі Вярхоўнага Совета Расійскай федэрацыі. Праз віхры і навальніцы ён праімчаўся над роднай краінай, несучы на сваім барту лозунг: «Жанчыны карыстаюцца правам выбіраць і быць выбранымі нараўне з мужчынамі».

Яркія літары свяціліся на барту — гэта семнаццаты артыкул Совецкай Канстытуцыі.

**Прайшло паўтара дзесятка гадоў з таго дня...**

— Цяпер, у сучасны момант, не будзеш здзіўляцца з нашага дзесяцігадзіннага пералёту. Айчынная тэхніка пакрочыла далёка наперад, — гаворыць Вера Фёдараўна. — Мы сапраўды лятаем вышэй і далей за ўсіх.

Веру Ламака, сваю зямлячку, уважліва слухаюць парашутысты, будучыя пілоты з Мінскага аэраклуба. Яна прыехала да іх у госці і ўспамінае незабыўны пералёт. Пералёт, які быў прыкладам для нашых патрыётак, моцных духам, вытрымкай і адвагай. Прыклад Расковай і Асіпенка шмат хто насіў у сваім сэрцы ў часы вайны. Не маглі не памятаць аб ім Зоя Касмадзем'янская і Уля Громава, Ліза Чайкіна і Рыма Шаршнёва. У дні Вялікай Айчыннай вайны нашы жанчыны яшчэ вышэй узнялі сваю славу бессмяротнымі подзвігамі.

Вера Ламака расказвае, а сярод слухачоў сядзіць інструктар аэраклуба Аня Кандавіна, з якой разам Вера Фёдараўна змагалася на Другім Беларускім фронце. Вось сустрэча! Аня Кандавіна была ў палку, якім камандавала Вера Ламака.

Лётчык-знішчальнік Ламака бязлітасна помсціла фашысцкім захопнікам. Яе самалёт заўсёды быў там, дзе ў небе з'яўляліся варожыя драпежнікі. Адзін час Вера Ламака была штурманам знішчальнай дывізіі, і толькі пасля ранення ў паветраным баі над Малаяраслаўцам яна стала камандаваць экскадрыляй лёгкіх бамбардыроўшчыкаў. Восем баявых узнагарод на грудзях жанчыны-воіна.

Вера Ламака вызваляла Беларусь.

Зноў, калі на палётнай карце вызначыліся гарады і вёскі Палесся, яна, як калісьці, сказала:

— Родны Гомель!.. — І радасна дадала: — Вызвалены!

Быў такі выпадак у пачатку 1944 года. Па ініцыятыве стаханаўцаў Крычаўскага вузла чыгуначнікі, арганізаваўшы збор сродкаў у фонд абароны, вырашылі купіць самалёты і ўручыць іх асабіста маёру авіяцыі Веры Ламака. Уручэнне адбылося ў ліпеньскі дзень, такі, як некалі ў 1938 годзе, калі Вера Фёдараўна са сваімі сяброўкамі здзейсніла вядомы гераічны пералёт.

— У знак падзякі нашай арміі, якая вызваліла наш горад Крычаў, — сказаў, адкрываючы мітынг, пажылы чыгуначнік, — мы ўручаем вам, таварыш Ламака, гэтыя тры самалёты і ўпэўнены, што вы апраўдаеце наша давер'е, будзеце граміць захопнікаў да поўнай перамогі.

Дзень Перамогі застаў Веру Ламака ва Усходняй Прусіі.

Настойлівасць, моцная сіла волі — рысы характару Веры Фёдараўны. Яна адна з тых трох сябровак, каго заслужана назвалі мужнымі. Глядзіш, спаткаўшыся з ёю, і бачыш гэтую нязломную загартаваную волю да перамогі, бачыш незгасальны агонь юнацтва, з жыццерадасным смехам і песнямі...

Вось з групы мінскіх аэраклубаўцаў натхнёна і горача пазірае на Веру Фёдараўну Люда Панкевіч. Яна — чэмпіён свету і СССР у парашутным спорце.

— Чэсць і слава нашай авіяцыі! — кажа Вера Ламака. — Перад вамі, таварышы, ляжаць шляхі, якія вы таксама смела і адважна пераадолееце на карысць Радзімы. Наперадзе ў нас яснае заўтра — комунізм. Над намі высокае блакітнае неба мірнай нашай краіны.



## В. Г. КАРАЛЕНКА

27 ліпеня гэтага года спаўняецца сто год з дня нараджэння выдатнага пісьменніка-дэмакрата, пісьменніка-грамадзяніна Уладзіміра Галакціёнавіча Караленкі.

Імя Караленкі добра вядома беларускаму чытачу. Яго творы, перакладзеныя на беларускую мову, вытрымалі не адно выданне.

Творчасць Караленкі, поўная пафасу барацьбы з тагачаснай гнуснай расійскай рэчаіснасцю, з'яўляецца ўзорам рускага дэмакратычнага мастацтва. Караленка прынёс у рускую літаратуру новыя тэмы і новыя вобразы. Ён піша пра людзей, поўных няўхільнага жадання прабіцца да свабоды і праўды, пабудаваць на зямлі справядлівы лад. Палымяным пратэстам супраць несправядлівасці жыцця, горкаўскай павагай да чалавека працы гучаць такія яго лепшыя апавяданні і нарысы, як «Сон Макара», «Лес шуміць», «Рака іграе», аповесць «Сляпы музыкант» і іншае.

Горкі высока цаніў талент Караленкі.

«Ён для мяне, — гаварыў Аляксей Максімавіч, — ідэальны вобраз рускага пісьменніка».

В. Г. Караленка вядомы не толькі як таленавіты пісьменнік, але і як грамадскі дзеяч. Вялікую славу прынесла пісьменніку яго публічнае выступленне ў абарону сялян-удмуртаў, абвінавачаных царскімі прыслужнікамі ў забойстве. Выступіўшы на судзе ў якасці абаронцы, Караленка даказаў агідны паклёп на сялян, які быў узведзены з мэтай распальвання нацыянальнай варожасці, і дабіўся апраўдання абвінавачаных.

У памяць Караленкі сяляне удмурцкай вёскі Мултан, дзе адбываўся некалі гэты працэс, назвалі свой калгас яго імем.

Вольналюбівыя ідэі Караленкі прыйшліся не да спадобы царскім прыгоннікам на чале з Аляксандрам III. Пісьменніка неаднаразова высылалі ў Сібір, аддавалі пад паліцэйскі нагляд. Але праз усе суровыя гады царскіх ссылак пісьменнік пранёс непахісную веру ў лепшую будучыню, якую здабудзе свабодалюбівы рускі чалавек. Праўда, абрысы гэтай будучыні Караленка ўяўляў сабе няясна, гэтаму перашкаджалі яго народніцкія погляды. Але ён палымяна абараняў і вітаў кожны крок народа па шляху да лепшай будучыні. Гэтым ён дарагі і блізкі нам, савецкай моладзі, кожнаму савецкаму чалавеку.

Яўген ВАСІЛЁНАК

# Добрай раніцы!

Апавяданне

Мал. М. Бельскага.

Руан, мой родны Руан, бывай!

Апошні раз бачу я твае цудоўныя вуліцы, твае непаўторныя плошчы... Бывай! Праз якую гадзіну буду я ў поездзе. Білет — вось ён у кішэні. Поезд паімчыць мяне на ўсход краіны, у Лонгві. Стары Бернар абяцае мне там прытулак. Кажа, праца для чысцільшчыка ботаў знойдзецца.

Учора прэфект Буршэ сказаў мне:

— Дваццаць чатыры гадзіны — і каб тваёй нагі тут не было!

Я паспрабаваў пажартаваць:

— Маёй нагі даўно ўжо няма ў Руане, пан прэфект. Яна засталася ў партызанскім шпіталі... — І паляпаў рукой па пратэзу. — Гэта было якраз у той дзень, калі нашы макі* ўшчэнт разбілі гітлераўскіх карнікаў.

— Пагавары ў мяне, валацуга! — зароў Буршэ. — Дваццаць чатыры гадзіны — і ні мінуты болей! Бач ты, прыдумаў: пачысціць чалавеку боты, а потым у рукі яму адозву суне... Я табе пакажу адозву!..

Бывай, мой Руан!

На стале перада мною стаіць люстэрка. Старое яно, ажно яшчэ з часоў партызаншчыны. Па баках скрозь пашкрэбанае, а пасярэдзіне, крыху бліжэй да левага кутка, уелася ў яго нейкая белая пляма. Таму, калі мне даводзіцца галіць перад ім бараду, я не бачу свайго левага вока, бо пляма непразрыстая. Але гэта і добра, што не бачу: навошта занадта часта напамінаць сабе, што замест вока ў цябе пустая ўпадзіна...

Гадзіны з дзве таму назад я з дапамогай ляза «Бастон» паспяхова ліквідаваў густыя парасткі валасоў колеру іржавага жалеза, якія павырасталі на маіх шчоках і барадзе за якіх дзён тры, што быў я госцем пана Буршэ. Ліквідаваў, а люстэрка так і засталося стаяць перада мною, і я ўсё гляджуся ў яго.

Стары ты зрабіўся, Клод Лятрэз, ох і стары!.. Пашкрэбаны ўвесь чыста, нібы тое люстэрка. А зморшчын на твары колькі! Вунь — бачыш — на ілбе іх сабралася ці не з дзесятак; а на скронях, а каля роту!.. Уга!

Калі-ж гэта прайшла твая маладосць, Клод Лятрэз?.. Дзе падзелася тваё здароўе, твая сіла?.. Прыгадай: табе-ж і трыццаці год яшчэ няма!..

Раніца. Толькі што ўзыйшло сонца. У садзе гаспадара дома перад маім акном цвіце белы бэз. Праз расчыненую фортку яго водыр запаўняе мой невялічкі пакойчык. Дзень сёння будзе харошы, ясны. На небе ні хмурынкі, блакіт такі чысты, прывабны, што позірк не можа ад яго адарвацца.

* Макі — французскія партызаны.



Але трэба, мабыць, ісці. Колькі зараз гадзін?.. Не, час яшчэ ёсць, можна пачытаць «Юманітэ». Гэты цудоўны хлапчук Андрэ прынёс ужо яе.

Цікава, вельмі цікава! Сёння ў газеце надрукавана справаздача аб рабоце Сусветнай канферэнцыі прыхільнікаў Міру. Я праглядаю выступленні дэлегатаў Карэі, Інданезіі, Бразіліі, Англіі, В'етнама... Пачакай, а ад нашай краіны хто-небудзь выступаў? Ага, вось: на трэцяй паласе, унізе, змешчана прамова французскай дэлегаткі Эжэні Дзюфрыш. Што, што? Няўжо гэта яна, наша Эжэні?..

Змест прамовы пераконвае мяне: яна! Наша бясстрашная партызанка Эжэні Дзюфрыш, удзельніца руху Супраціўлення. Гэта ёй апладыравалі на канферэнцыі людзі — прадстаўнікі народаў розных краін свету.

Я перачытваю прамову і ў мяне таксама паяўляецца гарачае жаданне адказаць воплескамі на словы, з якімі звярнулася да народаў свету мая зямлячка. І я раблю гэта. Чуеш, Эжэні, мае апладысменты?.. Эх, каб магла ты пачуць іх!..

Колькі-ж часу не бачыліся мы з табою? Шмат, вельмі шмат, амаль цэлых дзесяць год. А сустрэчы нашы паўстаюць перада мною, нібы ўсё гэта было ўчора ці пазаўчора...

Які-ж дурань ты быў тады, Клод Лятрэз! Насіў, выношваў у сэрцы словы, што прыходзяць да чалавека толькі адзін раз у жыцці, а выказаць іх так і не здолеў. Помніш, ты збіраўся зрабіць гэта ў той жнівеньскі дзень сорак трэцяга года, калі прышлі вы з Эжэні, абхітрыўшы гітлераўцаў, у Парыж, каб наладзіць сувязь з партыйным падполлем? Не, раней, значна раней трэба было зрабіць гэта, дурная твая галава! Размінуліся ў той дзень вашы дарогі. Так і не пачула дзяўчына слоў, што доўгія месяцы выношваліся ў юнацкім сэрцы.

Яшчэ ёсць час, ты яшчэ паспееш на поезд, Клод Лятрэз... Прыгадай-жа той дзень да дробязі!.. Тады таксама былі апладысменты, многа апладысментаў!

Прыгадай!..

... Ідуць па вуліцы двое — малады чалавек і дзяўчына. Ён сярэдняга росту, з чубам светлых валасоў, яна крышку ніжэйшая за яго, твар яе строгі, карыя вочы пазіраюць на сустрэчных з адкрытай пагардай. Яшчэ-б, дзяўчына ідзе побач з лейтэнантам войск СС!..

Яны ідуць па вуліцах Парыжа, голасна размаўляюць і бестурботна смяюцца. Мала людзей трапляе ім насустрач. Жыхары зганьбаванага горада больш сядзяць у гэтыя чорныя дні па сваіх кватэрах, а немцаў у такую спякоту хіба адарвеш ад піва ў кафэшантанах!..

Малады чалавек і дзяўчына мінаюць плошчу Згоды. Ад Трыумфальнай аркі ідуць усцяж Елісейскіх палёў. Потым скіроўваюць налева.

Каля руін, што ўзвышаюцца на тым месцы, дзе была да вайны антыкварная крама мадам Каньё, яны трохі замаруджваюць крок.

— Здаецца, трэба пакінуць тут, Эжэні? — пытаецца ён.

— У вас кароткая памяць, пан афіцэр, — адказвае яна. — Маё імя...

— Цьфу, чорт, выбачайце, дарагая Мадлен! — Ён прыціснуў левую руку да грудзей, схіліў галаву ў галантным паклоне. — Выбачайце!

Нахіліўшыся да яго, нібы ў знак таго, што — не, яна зусім не крыўдзіцца! — дзяўчына паўшэптам сказала:

— Так, пакінуць паперку трэба будзе тут. Дарэчы, дзе яна ў цябе?

— Вось тут. — Ён паклаў руку на нагрудную кішэню. — Але-ж загадана пакласці вечарам... А да вечара яшчэ далёка.

— Перадай неўпрыкметку мне, — ціха прамовіла дзяўчына. І раптам загаварыла на ўвесь голас, угледзеўшы, што насустрач ім ідзе нямецкі фельдфебель: — Дык чым мы зоймемся, пан афіцэр? Мо,' у кіно сходзім?

— Сапраўды! — узрадаваўся «лейтэнант», які выцягваў паперку з кішэні. — Вось тут у мяне запісана, што ідзе сёння ў кіно. Паглядзіце, калі ласка, дарагая Мадлен!

І на вачах у фельдфебеля, які аддаваў «лейтэнанту» чэсць, перадаў складзеную ўчацвёра паперку дзяўчыне. Тая прыгожым жэстам разгарнула яе, прабегла па ёй вачыма і, сказаўшы «то і добра, пойдзем!», схавала яе ў сваю сумачку.

Яны накіраваліся ў кінотэатр.

Крыху здзівіла іх, што зала была поўная людзей і што былі тут галоўным чынам не немцы, а жыхары горада, старыя і дзеці. Здагадаліся: гітлераўцы пазганялі людзей, каб паказаць адзін з сваіх прапагандысцкіх фільмаў пра «перамогі» над савецкімі войскамі.

Селі ў восьмым радзе, з правага боку. Святло чамусьці доўга не гасла, і яны не ведалі, пра што гаварыць. Думкі ішлі ў адным кірунку і ў яго, і ў яе: хутчэй-бы бег час, хутчэй-бы прышоў вечар! Паклалі-б тады яны пісульку ў вызначанае месца ды і зноў назад, да сваіх сяброў-партызанаў.

Думаў хлопец яшчэ і пра другое. «Вось пагасне святло, узяць-бы рукі дзяўчыны ў свае, сціснуць іх і сказаць, што ў яго на сэрцы. Каб сказаць!..»

Пагасла святло, пачаўся фільм. «Пасля скажу, пасля, — прадаўжаў думаць хлопец. — Пасля, па дарозе дамоў... Там ніхто перашкаджаць не будзе».

Ён неўпрыкметку зірнуў на дзяўчыну, потым на яе суседа з другога боку. Побач з ёю сядзеў высокі немалады год чалавек. На левай шчацэ ў яго хлопец разгледзеў глыбокі шрам.

Паказвалі хроніку пра тое, як фашысцкія самалёты робяць бандыцкія налёты на Маскву. «Ох, і брэшаце-ж!» — хацелася крыкнуць хлопцу. На экране самалёты ішлі суцэльнай сцяной. Беспакарана пераляталі яны цераз лінію фронта, бесперашкодна дабіраліся да Масквы і бамбілі, бамбілі, бамбілі... Рушыліся дамы, беглі някуды ў паніцы людзі. «Дзе гэта яны здымалі такое? Ці не ў сваім Берліне?!»

Усё-ж з адным самалётам здарылася бяда. Відаць, аўтары фільма для большай «праўдзівасці» вырашылі знішчыць адзін свой бамбардыроўшчык. У той час, калі самалёты рабілі сваю брудную справу, па іх пачалі страляць зенітнікі...

Хлопец зірнуў на дзяўчыну. Яна падалася наперад, вочы яе блішчэлі. Пацiху, каб ніхто не заўважыў гэтага, ён сваім локцем дакрануўся да яе локця. Дзяўчына, здаецца, не адчула гэтага. Уся яе постаць нібы гаварыла: «Біце іх, гадаў, біце, любыя!»

На экране тым часам буйным планам быў паказаны велізарны бамбардыроўшчык. Твар лётчыка задаволена ўсміхаўся. Навокал выбухі разрываў, а лётчык рагоча. Вось адзін снарад выбухнуў зусім блізка. Пасля яшчэ адзін, і яшчэ... А лётчык усё рагоча.



Аж раптам твар яго пакрываўся. Самалёт уздрыгнуў і пачаў ахутвацца дымам.

У зале стаяла цішыня.

Хлопец зноў зірнуў на дзяўчыну. Яе рукі імкліва зрушыліся з кален, дзе ляжалі дагэтуль... Ён не паспеў схапіць іх. Гучны ўсплеск далоняў далёка разнёсся па зале, — разнёсся, але не сціх, бо ў той-жа момант быў падхоплены тысячамі другіх воплескаў.

Пакідаючы за сабою доўгі хвост чорнага дыму, падаў на экране ўніз фашысцкі самалёт, і яго падзенне суправаджала бура апладысментаў.

Самалёт не даляцеў да зямлі. Запалілася святло, дэманстрацыя фільма была перапынена. У залу ўбеглі гестапаўцы.

— Усім сядзець на сваіх месцах! — зароў таўшчэзны з чырвоным каркам обер-лейтэнант.

Гестапаўцы пачалі абкружаць тыя рады, дзе сядзелі хлопец і дзяўчына. Напэўна, яны чулі, адкуль пачаліся апладысменты.

«Абодвум гінуць нельга!» — мільганула думка ў яго, і ён шапнуў дзяўчыне: — Мы незнаёмыя. Чуеш? Незнаёмыя! — Успомніўшы пра паперку, што ляжала ў яе сумачцы, паспешна дадаў: — Выкінь яе! Хутчэй!

Ды было позна ўжо.

Той незнаёмы, са шрамам на шчацэ, што сядзеў з другога боку ад дзяўчыны, ужо гаварыў:

— Дазвольце сказаць, пан обер-лейтэнант! Дазвольце сказаць! Я ведаю! Гэта тут! Тут...

Гестапаўцы ўподбег накіраваліся да незнаёмага. Тады «лейтэнант» ускочыў з месца і, адштурхнуўшы як мага далей дзяўчыну, кінуўся на чалавека са шрамам.

— Сапраўды тут! — гукнуў ён і з усяе сілы ўчапіўся рукамі нягодніку ў горла. Той захрыпеў і паваліўся.

Узнялася калатня. Натоўп адціснуў дзяўчыну да дзвярэй, выштурхнуў яе на вуліцу, і яна не бачыла, як скруцілі фашысты Клоду рукі, як білі яго, як валаклі ў гестапа...

Не бачыў і ён, ці паклала яна запаветную пісульку туды, куды трэба было. Толькі ведаў сэрцам — паклала!

... Вось і ўсё...

Прыгадаў? А болей і не трэба. Бо перажыць яшчэ раз тое, што перажыў потым ты, перажыць нават толькі ў думках — не так проста.

... Хіба-ж дзіўна, што цэлых дзесяць год не ведаў я, дзе ты, Эжэні, і нават ці жывая ты. А пра цябе і казаць няма чаго — ты пахавала мяне ў той спякотны жнівеньскі дзень сорак трэцяга года. Ды цуды ўсё-ж бываюць на свеце: бачыш — я жывы. Мне ўдалося ўцячы тады з гестапа. Зноў падаўся я ў лес. І хоць трапіў я ў другі атрад, ты ўсёроўна была са мною, у маім сэрцы.

Так, я жывы, Эжэні!.. Толькі вось у люстэрка мне не хочацца ўглядацца...

Адсунься, старое!

Мабыць, мы стрэнемся некалі. Так, цяпер мы, напэўна, стрэнемся. Ты абавязкова прыедзеш у Руан! Што скажу я табе? А ты мне што?.. Сяброўка дзён маіх незабыўных, адзіная ў свеце, ці сказаў табе хто тыя словы, якія я не паспеў сказаць?..

У садзе ўзняўся лёгкі ветрык. Пад маім акном зашамацелі лісцем кусты бэзу, ды ўсё гучней і гучней.

Я заплюшчыў вочы, прыслухаўся. І ўжо не шапаценне, а гучны грукат грому чуецца мне ў парывах ветру.

А мо' гэта не гром грукоча? Прыслухайся лепей, Клод. Чуеш?..

Грымяць, усё мацней грымяць апладысменты ў зале канферэнцыі народаў свету. Чуеш, — яны грымяць і ў імя таго, каб нікому, нікому болей не перашкаджалі выказваць словы кахання.

Дык куды-ж ты едзеш, куды ўцякаеш, Клод Лятрэз? Прэфекта Буршэ спалохаўся?.. Выкінь у памыйніцу свой білет на поезд! За справу, дружа!

З саду ліецца водыр кветак бэзу. Я высоўваюся з акна і дыхаю, дыхаю на поўныя грудзі.

Усё вышэй паднімаецца сонца. Хутка пачне прачынацца горад.

Добрай раніцы, любы Руан! Клод Лятрэз застаецца з табою!



**І. НАУМЕНКА**

# МАЛАДЫ ВУЧОНЫ

**Нарыс**

Фота А. Дзітлава.

Рыбацкая лодка шыбуе па хвалях Нарачы да вытокаў рэчкі Нарачанкі. У лодцы двое: сівы брыгадзір рыбалавецкай брыгады Барыс Чарняўскі з вёскі Урлікі, што размешчана на працілеглым беразе, і маладая лабарантка Марыя Гальцова, якая ўсе гэтыя гады прыязджае на Нарач з Мінска для вывучэння рыбы сялявы, якой тут вельмі багата.

Холадна, з боку Нарачанкі дзьме злосны вецер. На хмурай паверхні возера густа плывуць белыя ільдзіны, раз-па-разу стукаючыся аб лодку. Стары нібы не заўважае іх, ён спакойна вяслуе супраць ветру, а яго пасажырка ў гумавых ботах і стракатай хусцінцы адпіхвае ільдзіны вяслом.

— Праз тыдзень ляжа лёд, — кажа брыгадзір.

— Каб толькі зноў сеці ільдзінамі не пазносіла...

— Не пазносіць, грузілы, лічы, цяпер па цэламу пуду...

Лодка кіруецца туды, дзе ў гэтыя першыя зімовыя дні адкладвае ікру сялява. Дзе адбываецца нераст — да гэтага часу дакладна не ведалі нават самыя старэйшыя рыбакі з навакольных вёсак. Марыя Гальцова доўга шукала гэтыя мясціны. Ад самай перамычкі, што аддзяляе Нарач ад возера Мястры, ставіла яна з рыбакамі сеці, спадзеючыся, што ў іх пападзе нерастуючая рыба. Летась пошукі не далі станоўчых вынікаў. А сёлета ў сеці, пастаўленыя на ўсланых галькай і пяском падводных градах, што параскіданы паблізу вытокаў Нарачанкі, папаўся першы, хоць і невялікі, улоў — нерастуючая сялява. Здавалася, што нарэшце прышоў доўгачаканы адказ на важнае пытанне. Але зноў бяда. Дыхнуў холад, і ўчора па возеры пайшлі ільдзіны. Яны скамячылі і знеслі да берагоў пастаўленыя на ноч сеці. Страчаны яшчэ адзін дзень. Сялява-ж нерастуе ўсяго некалькі дзён. І хто ведае: можа страчаны дзень быў апошнім? Тады чакай яшчэ год, бо ўсё ў замкнутым коле неразгаданых загадак.

Мацнее вецер. Хвалі з плёскам і шумам набягаюць на прыбярэжныя камені, выкідваючы на бераг ільдзіны і аздабляючы яго каймою белай пены. Лодка то ўздымаецца на самыя грабяні хваль, то апускаецца ўніз.

— К вечару пацішэе! — ужо крычыць рыбак. — Тады і сеці паставім.

Яны прычальваюць да берага, выцягваюць лодку на пясок. Перад імі ўсё возера — неспакойнае, узбунтаванае. Працілеглага берага не відаць, ён схаваўся ў перадвячэрнім змроку. Можна цяпер пасядзець пад хвоямі ў зацішку.

— Доўга яшчэ нам з табою па возеры плаваць, дачушка? — пытае стары брыгадзір. — У такое надвор'е і рыбакі не ахвочыя з хаты вылазіць...

— Яшчэ паплаваем, дзядзька Барыс. Вось, як не наловім цяпер рыбкі, то цэлы год прыдзецца чакаць наступнага ўлову.

— Упартая ты, дачка. Не ў крыўду кажу. Першы раз як убачыў я цябе, то падумаў: ну, куды ёй па возеры ездзіць! Тоненькая, кволая, яна і вясла, думаю, не падыме, вады спалохаецца. Было такое...

— Да вечара, кажаце, супакоіцца вецер?

— Павінен супакоіцца, а як-жа... Я з адным вашым вучоным з самага трыццаць дзевятага года знаёмы, — сказаў брыгадзір, памаўчаўшы. — Як прышло да нас вызваленне, то ён хутка пасля гэтага на Нарач і прыехаў. Вельмі вучоны чалавек, а душою просты і шчыры. Многа ездзілі мы з ім па Нарачы. Паставім сеці, плывем па возеры, ён розныя інструменты на вяровачцы апускае на дно, ваду бярэ ў прабіркі. Размаўлялі шмат... Цікаўны ён быў чалавек. Распытваў пра ўсё: як нашы рыбакі забастоўку пры панах аб'яўлялі, як жылі бацькі нашы і дзяды. І сам расказваць быў майстар. Заслухаешся, бывала. Ведае ён, якая рыба ў Байкале водзіцца, і на Чудскім возеры, і ў карэльскіх азёрах. Вось, думаю, паездзіў чалавек ды пабачыў усяго на белым свеце!.. Расказваў ён мне аднойчы пра нашага вугра. Ну, колькі разоў лавіў я гэтага самага вугра, пуды цэлыя. А што ведаў пра яго? Добрая рыба, смачная, тлустая. За яе на нарыхтоўчым пункце самая высокая цана. А гэты вугар, аказваецца, не толькі смачная, але і вельмі цікавая рыбіна. Самкі-вугры жывуць у нас у прэснай вадзе, а самцы — у салёнай, у адкрытым моры. І дзіва — самка нерастуе толькі адзін раз у жыцці, плыве за тысячы кіламетраў аж у акіян.

— У Сарагосава мора.

— Ён і казаў так — у Сарагосава мора, ды я забыўся ўжо. І вось даплыве яна туды і сама гіне. А малькі, хоць малыя, ліха на іх, а чуюць радзіму, плывуць з гэтага Сарагосава мора назад у Нарач. А пакуль даплывуць, дык і падрастуць парадкам. Я сам не прыкмячаў малькоў вугра...

Вечарэла. Хвалі ледзь чутна лізжуць прыбярэжнае каменне. Рыбак і лабарантка зноў у лодцы, плывуць на адкрыты плёс, дзе на невялікай глыбіні параскіданы галечныя грады. Там трэба размясціць стаўныя сеці. Калі сялява яшчэ нерастуе, то яна ў іх трапіць абавязкова, бо сеці перагароджваюць ёй шлях да месца нерасту. І тады ў руках лабаранткі будзе матэрыял, якога яна доўга шукала. Многія дні і ночы, узброіўшыся мікраскопам, будзе тады яна сядзець за сталом, падлічваць, параўноўваць розныя экземпляры рыбы, пакуль не прыдзе да пэўнага вываду.

— Прафесар казаў, што вучоныя кнігу збіраюцца напісаць пра рыбу нашых азёр, — гаворыць брыгадзір. — Рыбакам даўно такая кніга патрэбна.

— Будзе кніга, дзядзька. Нездарма-ж мы на Нарач каторы год ездзім...

Моўчкі, ні адным лішнім рухам не парушаючы цішыні, рыбак з лабаранткай распраўляюць і ставяць сеці. Зусім сцямнела. Месяц яшчэ не ўзыйшоў, і азёрная вада здаецца чорнай. Там, на беразе, у вокнах хат загарэліся агні. Закончыўшы работу, рыбак і лабарантка плывуць да берага, каб заўтра на світанні прыехаць за ўловам.

Упершыню Марыя Гальцова прыехала на Нарач у 1946 годзе разам са сваім навуковым кіраўніком прафесарам М. Е. Макушком, вядомым іхтыёлагам рэспублікі. Была яна тады дыпломніцай біялагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Леніна і ехала вывучаць рыбу, якую па парадзе прафесара вырашыла апісаць у сваёй дыпломнай рабоце.

Прыгажосць маляўнічых мясцін азёрнага краю захапіла яе. Вузкай шасейкай, што вілася берагам возера Мястры, ехала дзяўчына сюды з Мядзеля. З аднаго боку рассціляліся жаўцеючыя палеткі, з другога — люстраная гладзь возера. Уздоўж берага на коллях і рагульках сушыліся рыбацкія снасці — невады, падвалокі. Сям-там, упёршыся носам у бераг, пагойдваўся на вадзе човен. А там, на сярэдзіне возера, як акінуць вокам, віднеліся чорныя кропкі рыбацкіх лодак — цэлая калгасная флатылія. Ішоў лоў рыбы. Дзяўчына ўпершыню тады зразумела, што нарачанскія азёры — не толькі прыгожыя мясціны, дзе можна добра адпачыць. Прафесар прапанаваў ёй агледзець, як ловяць рыбу. У калгаснай канцылярыі ім далі праваднікa — памочніка рахункавода. І вось лодка імкліва разразае хвалі, кіруючыся да трох чорных кропак. Там ловіць рыбу брыгада Барыса Чарняўскага.

Возера дыхае свежасцю. Сямтам на яго паверхні можна ўбачыць зялёныя водарасці, час-адчасу над вадой праляціць востракрылая чайка-рыбак.

Лодка набліжаецца да таго месца, дзе цягнуць невады. Захапіўшы сеткай участак возера, абедзве лодкі ідуць на збліжэнне, замыкаючы круг.

Стары брыгадзір здалёк пазнаў прафесара, ён махае яму шапкай. Лодкі замкнулі круг, а ў месцы іх стыку закінуты трохгубец, каб рыба не ўцякла з сецяў пад днішчы лодак.

Рыбакі перамаўляюцца, вітаюцца з прыезджымі, а прафесар частуе іх папяросамі.

І вось самы цікавы момант. Падкасаўшы штаны, загарэлыя хлопцы ў брызентавых фартухах выбіраюць з вады падвалоку. Нарэшце амаль уся яна выбрана, і тады агульнымі намаганнямі ў лодку ўцягваецца ўлоў. Рыба трапечацца, яе выбіраюць з сеткі, маленькую кідаюць зноў у ваду — няхай расце, а на дно лодкі ляцяць вокуні, сялява, чырванапёркі, плоткі, шчупакі, язі, ліні, ляшчы, карасі, яршы, налімы... Марыя бачыць, што пераважае прадаўгаватая срабрыстая рыбка з шэра-блакітнай спінкай. Гэта сялява. Яна ведае, што ў Нарачы да паўтара дзесятка відаў рыб. Але якое месца займае сярод іх сялява? Прафесар усміхаецца, калі дзяўчына распытвае аб гэтым рыбакоў.

— Ого, сялява! — адказвае Марыі брыгадзір Чарняўскі. — Усе нашы ўловы на ёй трымаюцца. Сялява — гэта-ж наш беларускі селядзец!

Марыя Гальцова ўсё тое лета правяла на возеры з рыбакамі. Яна вывучала біялагічныя асаблівасці сялявы, вывучала яе марфалагічныя знешнія прызнакі, умовы існавання. Калі яна вярнулася ў Мінск і захацела пачытаць штонебудзь пра еўрапейскую рапушку нарачанскай групы азёр, як называлася сялява ў навуковай літаратуры, то знайшла толькі самыя агульныя звесткі. У кнігах не было спецыяльнага даследавання пра нарачанскую сяляву. Марыя звярнулася да прафесара Макушка.

На здымку ўверсе: **Возера Нарач.**

— Я ведаў, што вы прыдзеце да такой думкі, — адказаў ён Гальцовай. — Ваша работа будзе першым спецыяльным даследаваннем...

Так нарадзілася дыпломная работа. І хоць яна належала ўсяго толькі студэнтцы, але ўжо тады былі ў ёй цікавыя думкі, самастойныя назіранні і вывады, а галоўнае — пытанні, што патрабавалі свайго далейшага навуковага вырашэння. Што ўяўляе сабой сялява ў адносінах да свайго сямейства і віда, ці мае гэтая рыба перспектывы развіцця ў другіх вадаёмах рэспублікі? Адказ на гэтыя пытанні магло даць глыбокае і ўсебаковае даследаванне.

Калі Марыя Гальцова закончыла універсітэт, на Нарачы ствараласяя біялагічная навукова-даследчая станцыя Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Яна папрасілася туды на работу. Так пачалася самастойная работа і самастойнае жыццё.

І вось зноў яна з рыбакамі, зноў запісвае, назірае, параўноўвае, думае. У яе абавязкі ўваходзіць многае: сачыць за ўмовамі існавання рыбы, за тэмпературным рэжымам азёр зімой і летам, восенню і вясной, даследаваць нябачнае вокам, але цікавае і складанае жыццё мікраарганізмаў воднай стыхіі.

Складаныя абавязкі лаборанта. Паранейшаму Марыю Гальцову больш за ўсё цікавіла сялява, рыба, якая жыве не толькі ў Нарачы, а і ў другіх азёрах, што перарывістым ланцугом цягнуцца адсюль далей на Полаччыну, у Літоўскую і Латвійскую рэспублікі.

Прайшло тры гады. Марыя Гальцова ўжо нямала ведала. Яна запісала сотні назіранняў. Было ясна адно: сялява пераважае ў колькасных адносінах над астатняй рыбай у азёрах Нарач і Мядзель. Тут яна мае і найбольшае промысловае значэнне. Значыць, у названых азёрах маюцца найлепшыя ўмовы для існавання сялявы.

Але тут-жа ўзнікала супярэчнасць, якую, як здавалася нейкі час лабарантцы, вырашыць ніяк нельга. Справа ў тым, што сялява — холадалюбівая рыба. Яна належыць да сямейства ласосевых, і яе біялагічнымі родзічамі з'яўляюцца такія рыбы, як ласось, бялуга, омуль. Усе яны таксама жывуць у вадаёмах з адносна нізкай тэмпературай. Па тэмпу свайго росту нарачанская рапушка падобная да рапушкі азёр Браслаўскай групы, Пскоўска-Чудскага вадаёма, буйнай рапушкі многіх азёр Карэла-Фінскай ССР. З'яўляючыся холадалюбівай рыбай, рапушка ўсюды жыве на значных глыбінях, дзе і ў летні час адносна нізкая тэмпература.

Не тое ў Нарачы і іншых прылягаючых да яе азёрах. Тут рапушка жыве ў незвычайных і нават не характэрных для яе тэмпературных умовах. У Нарачы ў сувязі з асаблівасцямі формы азёрнага ложа і рэльефа дна нават у летні час тэмпература вады на дне дасягае дваццаці градусаў. Як-жа холадалюбівая сялява жыве пры такой высокай тэмпературы ды і не толькі жыве, але і размнажаецца так паспяхова? Пэўна, ёсць іншыя, дагэтуль невядомыя спрыяльныя фактары, якімі кампенсуецца залішне высокая і неспрыяльная для існавання сялявы тэмпература. Якія гэта фактары, у чым яны? Адказу на гэтыя пытанні пакуль не было.

## Размова

Сёння ветлівы твар твой
Выглядае так строга.
З інстытута па карце
Ты шукаеш дарогу
Да няведамай вёскі
У глыбінным раёне.
Што-ж, давай па-сяброўску
Пагаворым і сёння!

Я у школу другую
Еду гэтай вясною,
І, вядома, шкадую,
Што не разам з табою,
Што у розных раёнах
Нас чакае работа...
Што-ж, няхай паштальёнам
Будзе болей турботы!

Ты гаворыш, што ў думках
Разыходзімся тут мы.
Што крыху будзе сумна
Там пасля інстытута.

Нас-жа стрэнуць у вёсцы,
У палескай, у новай,
Пасланцоў маладосці,
Самым ветлівым словам.

Там з людзьмі, што ў змаганне
Сёння выйшлі з балотам,
Свае думы, жаданні
Мы падзелім ахвотна.

І няма справы болей
Даражэйшай для сэрца,
Як пуцёўкі у школе
У жыццё выдаць дзецям.

Сумаваць нам, сяброўка,
Там не знойдзецца часу,
Ёсць кіно, пастаноўкі
Сёння ў клубах калгасаў.
Нават арыі Ольгі
І Тацяны, мне любай,
Ты таксама цудоўна
Праспяваеш і ў клубе.

Дык не будзь гэткай строгай:
Да глыбінных раёнаў
Мы па карце дарогі
Адшукаем сягоння.

Ул. НЯДЗВЕДСКІ,
студэнт Беларускага
дзяржаўнага універсітэта
імя В. І. Леніна.

Заўчасна памёр Марка Емельянавіч Макушок, чалавек, што прывіў Марыі Гальцовай любоў да навукі, заўсёды дапамагаў сваімі глыбокімі ведамі. Бывалі моманты, калі ў маладога вучонага з'яўлялася няўпэўненасць ў свае сілы, у здольнасць разабрацца ў гэтым складаным лабірынце загадак.

Аднойчы пахмурным асеннім днём пасля няўдачнага даследавання Марыя прыгнала сваю лодку да берага возера Мястры, над якім узвышаўся гранітны абеліск — помнік загінуўшым партызанам, што ў жорсткіх баях з фашыстамі адстойвалі свабоду гэтага азёрнага краю. Гальцова выйшла з лодкі, прысела адпачыць, і яе апанавалі ўспаміны. Вайна... Нямецкія бомбы падалі на універсітэт, дзе яна займалася... Ад рукі фашысцкіх забойцаў загінулі бацька яе і маці—чыгуначнікі. Яна пайшла ў партызаны, стала медыцынскай сястрой. Вяртала людзей у строй ...але былі выпадкі, што і не вяртала... Тыя, што паміралі, прасілі жывых адпомсціць ворагу, прасілі будаваць мірнае цудоўнае жыццё. Не, здавацца не трэба, якія-б цяжкасці ні стаялі на шляху...

Прайшоў яшчэ адзін год напружанай работы. Дапамог лабарантцы сваім вопытам гідрабіёлаг прафесар Вінберг. Жывы ўдзел у яе рабоце прыняў дацэнт Арлоўскі. Гэта ён накіраваў яе ўвагу на глыбокае вывучэнне прац акадэміка Лысенкі і, у асаблівасці, пытанняў узаемадзеяння арганізмаў з умовамі навакольнага асяроддзя. І вось лабарантка крок за крокам вывучае ўмовы існавання нарачанскай сялявы, яе ўзаемадзеянне са знешнім светам.

Вядома, што гэтая рыба корміцца заапланктонам, г. зн. некаторымі відамі мікраарганізмаў. Якія спажыўныя якасці арганізмаў, што жывуць у Нарачы, ці многа ў возеры заапланктона? Зроблены многія даследаванні, падлікі, і нарэшце знойдзены аргументаваны адказ. Спажыўныя якасці нарачанскага заапланктона вельмі высокія: корму для сялявы хапае ў любую пару года. Куды яснейшай стала ранейшая загадка аб тым, чаму холадалюбівая сялява так добра развіваецца ў цёплых нарачанскіх азёрах. Узнікае другое пытанне: калі ў возеры высокая тэмпература, то ці дастаткова для сялявы кіслароду ў вадзе? Зноў эксперыменты зімой і летам, падлікі, параўнанні... Нарэшце і гэтае пытанне вырашана. Усе слаі вады ў нарачанскіх азёрах багата забяспечаны кіслародам.

Так месяц за месяцам, год за годам накапляліся факты. На сёмым годзе сваёй работы Марыя Гальцова змагла зрабіць вывад, што нарачанская сялява як па сваіх марфалагічных прызнаках, так і па ўмовах існавання з'яўляецца самастойнай геаграфічнай формай. Некалі холадалюбівая рыба акліматызавалася ў высокіх тэмпературных умовах.

Прышоў і другі вывад, які мае вялікае практычнае значэнне. Нарачанская сялява, як рыба, якая добра прыстасавалася да высокай тэмпературы, можа служыць каштоўным матэрыялам для зарыблення вадаёмаў у паўднёвых абласцях рэспублікі. Дарэчы, сялява вельмі хутка расце, мае высокія спажыўныя якасці.

Дысертацыя Марыі Гальцовай аб рапушцы нарачанскай групы азёр з'явілася сур'ёзным навуковым даследаваннем, якое мае тэарэтычнае і практычнае значэнне. На гэта ўказалі ў сваіх водгуках многія вучоныя-іхтыёлагі Масквы, Ленінграда і навукова-даследчыя ўстановы краіны. Нядаўна вучоны совет Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Леніна прысвоіў Марыі Захараўне Гальцовай навуковую ступень кандыдата біялагічных навук.

Першая перамога атрымана Але гэта не канец, не мяжа творчым магчымасцям совецкага чалавека. Малады вучоны Марыя Захараўна Гальцова з тым-жа запалам і настойлівасцю прадаўжае вывучэнне рыб азёрнага краю Беларусі.



Марыя Гальцова праводзіць навуковыя доследы на возеры Нарач.

# РАДАСНЫЯ СУСТРЭЧЫ

**В. ПАПОВА**



Выдатная ўкраінская артыстка Марыя Заньковецкая, якую любоўна празвалі «Зоркай Украіны», калісьці марыла аб вялікім, свабодным украінскім тэатры. «Я веру, — пісала яна ў 1908 годзе, — у лепшую будучыню роднага народа, я веру, не, я ўпэўнена, што свабодны геній гэтага народа створыць новае, свабоднае нацыянальнае мастацтва. Гэтае мастацтва будзе знаходзіцца ў глыбокай сувязі з інтарэсамі народных мас, будзе садзейнічаць іх усебаковаму развіццю, іх барацьбе за лепшую будучыню, за духоўна прыгожага і моцнага чалавека».

Мара таленавітай артысткі здзейснілася толькі пры савецкай уладзе, якая дала магчымасць расквітнець усім нацыянальным мастацтвам, усім нацыянальным тэатрам.

Адным з такіх тэатраў з'яўляецца Львоўскі дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга ўкраінскі драматычны тэатр, які з 1922 года з гонарам носіць імя Марыі Заньковецкай — першай народнай артысткі УССР.

Больш трыццаці год тэатр імя Заньковецкай служыць працоўным Савецкай Украіны, знаёмячы іх з лепшымі творамі рускай, украінскай і заходнееўрапейскай класікі, з творамі савецкай драматургіі, што расце і развіваецца разам з народам.

Папаўняючы свой рэпертуар лепшымі п'есамі братніх народаў, тэатр у 1950 годзе ажыццявіў пастаноўку любімай п'есы латышскага народа — «Вей, ветрык!» Яна Райніса, а ў 1952 годзе звярнуўся да творчасці таленавітага беларускага драматурга Кандрата Крапівы, да яго п'ес «Хто смяецца апошнім» і «Пяюць жаваранкі», якія карыстаюцца заслужаным поспехам у працоўных Украіны. У творчым супрацоўніцтве аўтара А. Хіжняка і калектыва тэатра ў 1949 годзе створаны сцэнічны варыянт п'есы «На вялікую зямлю», за якую ўдзельнікі спектакля былі ўдастоены Сталінскай прэміі. У 1951 годзе тэатр удзельнічаў у дэкадзе ўкраінскага мастацтва і літаратуры ў Маскве і быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

На працягу свайго існавання тэатр дбайна клапаціўся аб выхаванні маладой змены заньковчан. Акрамя актораў, якія прышлі з заводаў і гурткоў мастацкай самадзейнасці, калектыў тэатра сістэматычна папаўняўся і папаўняецца выпускнікамі Кіеўскага тэатральнага інстытута і тэатральных студый. Асабліва трэба адзначыць маладых выпускнікоў Кіеўскага інстытута Н. Дацэнка і В. Данчанка, рэжысёраў В. Харчанка, В. Іўчанка, якія выраслі ў тэатры і сталі майстрамі ўкраінскай сцэны, заслужанымі артыстамі УССР.



Не так даўно пасля заканчэння Кіеўскага тэатральнага інстытута ў тэатр імя М. Заньковецкай былі накіраваны камсамольцы Люба Каганава, Уладзімір Аркушэнка, маладыя артысты Сяргей Бабронак, Марыя Каваленка, Ала Анпілогава. Цёпла сустрэў калектыў заньковчан маладое папаўненне. Іх першыя крокі ў тэатры пачынаюцца з удзелу ў масавых сцэнах, у невялікіх эпізодах.

Вялікай любоўю карыстаюцца ў гледача Люба Каганава і Уладзімір Аркушэнка, якія часта выязджаюць з канцэртамі на заводы, фабрыкі, у студэнцкія аўдыторыі, прымаюць актыўны ўдзел ва ўсім грамадскім жыцці, выдатна займаюцца ва універсітэце марксізма-ленінізма. На працягу двух год Уладзімір Аркушэнка ўзначальвае камсамольскую арганізацыю тэатра імя М. Заньковецкай.



Ва ўсіх спектаклях тэатра заняты і другія маладыя акторы — Тамара Свірыдзенка, Сяргей Бабронак, Ніна Агабекава, Наташа Набок, Рыта Пеньковіч, Лена Бурмістрава, Ала Анпілогава, Марыя Каваленка, Валянціна Разумная. Іх паспяховыя выступленні ў спектаклях гавораць аб вялікай і стараннай рабоце з моладдзю нашых вядучых майстроў, якія любоўна рыхтуюць слаўнае папаўненне заньковчан. Многа часу прысвячаюць педагагічнай рабоце з моладдзю галоўны рэжысёр тэатра заслужаны артыст УССР Б. Цягно, рэжысёр заслужаны артыст УССР В. Іўчанка, рэжысёр А. Клінц, заснавальнік тэатра, народны артыст СССР, лаўрэат Сталінскай прэміі Б. Раманіцкі, народныя артысты УССР, лаўрэаты Сталінскай прэміі Д. Дудараў, В. Ярэменка і В. Любарт, заслужаныя артысты УССР Ф. Гаенка, Н. Дацэнка, Д. Казагноўскі і другія. Яны дапамагаюць моладзі правільна падыйсці да кожнай з даручаных ім роляў.

Адно з галоўных дасягненняў тэатра — гэта выхаванне тэатральнай моладзі, падрыхтоўка дастойнага папаўнення радоў работнікаў савецкага мастацтва, якія растуць і будуць расці ў цесным садружастве са сваім гледачом.

Вось таму вельмі раднасай і хвалюючай для ўсіх нас была першая сустрэча з гледачом сталіцы братняй Беларусі, з рабочымі і стаханаўцамі мінскіх заводаў, з моладдзю рэспублікі.

Гэтыя сустрэчы натхняюць нас на новыя творчыя поспехі.

**Народны артыст УССР лаўрэат Сталінскай прэміі В. Ярэменка ў ролі Тараса Бульбы ў драме Б. Цягно «Тарас Бульба» (па матывах аповесці Н. В. Гогаля).**





**Гастролі Львоўскага тэатра імя М. Заньковецкай у Мінску.** На здымках (зверху ўніз): **1. Сцэна са спектакля «Лясная песня» Л. Украінкі. 2. Сцэна са спектакля «Каханне на досвітку» Я. Галана. 3. Сцэна са спектакля «Пакуль сонца ўзыйдзе, раса вочы выесць» М. Крапіўніцкага. 4. Сцэна са спектакля «Гібель эскадры» А. Карнейчука.**

Максім ЛУЖАНІН

## Наша жыта

Засыпаўшы ў сеялкі перад зарою,
Здружылі зярняты мы з пульхнай
раллёю,
Пасеялі жыта —
Расці ды кусціся!

У клопаце верасень полем праходзіць
І з намі ён думае, як-жа зародзіць
Сяголета жыта?..
...Дажджы паліліся.

Прараставе зерне, так слаўна рунее,
Паслалі пасцелю вятры ды завеі
Для нашага жыта —
Спачні, дарагое!

Праменні ўгравалі, з нябёсаў
стараліся,
А руні насустрач да іх прабіваліся,
І вось наша жыта
Гаворыць з вясною.

Пабегла ў хвалях яно пад узгорак,
Прыбоем з партоў наймалодшага мора
Дыхнула нам жыта,
Наш добры здабытак.

Каб першым было яно ў росце і
ў сіле,
Мы ніву апырскалі і падкармілі.
Дужэй, наша жыта,
Шумі на уздыме!

І колас падскочыў, падняўся да вуха,
І кожны пачуў, хто уважліва слухаў,
Падзяку ад жыта,
Падзяку Радзіме,

Усім, хто не ведаў ні стомы,
ні кволасці,
Хто заўжды ў дарозе ад зерня да
коласа,
Ад слова да песні —
Зімой і прадвеснем.

## Пчаляр

Вось пашана якая —
Заслужыў чалавек:
Хлопцы шапкі здымаюць,
Прапануюць «Казбек»,

Падымаюцца з месцаў,
Як заходзіць у дом,
Запрашаюць прысесці
За накрытым сталом.

Да таго-ж яго вельмі
Паважае пчала —
Прыляціць у свой пчэльнік,
Дзе-б яна ні была.

І далёка наўкола
Дзядзьку знаюць у твар:
Мае талент вясёлы
Наш калгасны пчаляр.

Не прышоў: у гаворках
Развароту няма;
Не зайграў: на вячорках
Усе скрыпкі — дарма.

А ў яго са смыка
Льецца музыка,
А ў яго дачка —
Проста ягадачка!

---

## Праекты

Ля новага дома
Стаяў я з дзяўчынай.
Прывабіў праект
У аконнай вітрыне.

Чаму захапіў нас
Той дом на праекце?
Чаму нашы вочы
Так весела свецяць?

Чаму? Не пытайце,
І слоў няма нават.
Спытайце у сэрца —
Яго гэта справа.

Стаялі, глядзелі,
На думку прышло мне:
«Эх, вырасце дом!
Нам-бы жыць у тым доме...»

Не знаў я, не ведаў,
Тады, як стаялі,

Што мары дзяўчыны
З маімі супалі.

Супалі? Не толькі...
Я нават здзівіўся:
Спачатку супалі,
А потым збыліся!..

Дом вырас. Гасцінна
Расчынены дзверы.
І ў гэтым-жа доме
Далі нам кватэру.

Дом шматпавярховы
Стаіць на праспекце.
Стаіць і на сонцы
Ён шыбамі свеціць...

А ў вокнах-вітрынах
Праектаў багата...
Прыходзьце да нас,
Юнакі і дзяўчаты!..

Мікола АРОЧКА, студэнт БДУ
імя В. І. Леніна.




В. ЦІХАНОВІЧ

Малюнкі аўтара.

### І ДВА ГАЛАЎНІ — РЫБА

Пагодлівы вечар.

На нізкім пясчаным беразе вялікай быстрай ракі мы, два сябры-студэнты, ловім рыбу. Людзі аднаго ўзросту, спаяныя адной непераможнай страсцю.

Наша снасць нескладаная — вудачкі. Прынада — чарвяк-дажджавік. Прынады гэтай у нас нямала, аднак не больш, чым рыбы, якую мы мяркуем прынесці дахаты. Уяўная рыба дзеліцца на акунёў, ляшчоў, язёў... Усе яны, вядома, немалых памераў.

Праўда, пакуль што клююць толькі яршы. Настрой свой мы падмацоўваем тым, што любуемся хараством вечара, надрэчнага лесу, ружовых хмарак...

З-за павароту ракі паказваецца плыт, які здаецца нам бясконцым. Неўзабаве плытнік у белай кашулі ахвотна шле нам звычайнае пры такіх сустрэчах прывітанне, асноўным зместам якога з'яўляецца дурань, які сохне на беразе, і чарвяк, які мокне ў вадзе. Мы, вядома, не застаемся ў даўгу.

А бяруцца пакуль што толькі ёршыкі. Смешна надзьмуўшыся, сударгава сціснуўшы раты і вылупіўшы фіялетавыя вочы, яны часта шлёпаюцца з нашых рук на пясок, а мы, даволі ўдала крывячы душой, вырашаем, што і яршы — таксама рыба, асабліва для юшкі...

Потым нашу ўвагу прыцягвае лодка з таго боку, з якой адбываецца нешта незвычайнае: адзін пасажыр яе то цягне, то вымётвае ў ваду шнур дарожкі, другі — заўзята налягае на вёслы, разам яны — азартна і красамоўна крычаць. І вось лодка ідзе адтуль, з-пад крутога берага, да нас, дзе бераг пясчаны. З кожным узмахам вёслаў нам усё лепш відаць струной нацягнуты шнур у руках таго, што сядзіць на карме. Апошні ўзмах вёслаў — і лодка на пяску. Мы лезем да рыбакоў з пытаннямі і дапамогай. Яны шыпяць на нас, як гусакі, і цягнуць шнур. Праз момант на адмелі з'яўляецца рыбка — метра так на паўтара даўжынёй. Абапал шырокай морды — вусы.

Гэта быў канчаткова стомлены сом, на ніжняй тоўстай губе якога красавалася бляcна.

Гаспадары гэтай здабычы, яшчэ ўсё п'яныя ад радасці, дружна дабілі сома і, прывязаўшы яго да лодкі, самі перабраліся ў хароšых хлопцаў, з якімі добра і пакурыць і пагутарыць...

Побач з іхняй здабычай нашы надзьмутыя, яшчэ ўсё злосныя яршы былі проста нікчэмнымі кропкамі на пяску, а мы побач з такімі рыбакамі выглядалі звычайнымі дылетантамі.

Да самага дому ніводзін з нас не заікнуўся нават наконт яршовай юшкі. Рашэнне было адно — купіць дарожку.

Назаўтра ўвечары мы ўжо на лодцы. Плывем уздоўж ценявога, высокага берага. Я сяджу на карме, трымаючы шнур у зубах, для






большай зручнасці залажыўшы яго яшчэ і за вуха. Вёсламі арудуе сябра. Абодва, вядома, маўчым — у чаканні вялікага, знамянальнага моманту.

Першая гадзіна маўчання прыносіць нам двух галаўнёў, грамаў так па шэсцьсот. Аднак, яны здаюцца нам не большымі за учарашніх яршоў. Мы чакаем сома.

Сонца тым часам зайшло. Мы робім трэці заход супраць плыні ракі. І вось, нарэшце, моцны штуршок! Рэзка падсякаю рукой і ўжо выразна адчуваю, як здорава водзіць у бакі наша жаданая здабыча. З грудзей маіх вырываецца слова, якое вельмі прашу набраць буйным шрыфтам:

— СОМ!!

На ўзнятай хвалі ў канцы шнура вываклочваецца на паверхню і адразу хаваецца пад ваду нешта чорнае. Гэта яго спіна! Выбіраю шнур. Таварыш, старанна працуючы вёсламі, трымае лодку на месцы. Чым бліжэй да лодкі, тым спакайнейшымі і карацейшымі робяцца штуршкі. Вядома, што вось цяпер іменна і павінна пачацца бурная барацьба рыбака і здабычы. Ды сом чамусьці не з'яўляецца больш на паверхні, не праяўляе імкнення да волі... Я выбіраю апошнія тры метры шнура і — адным махам...

На кручках трайніка, моцна, упоперак, сядзіць стары, набрынялы гразёй дзяркач... Звычайная, аджыўшая свой век мятла, аднак, якая-ж сіла супраціўлення!..

Спачатку мы даволі доўга маўчым, пасля рагочам...

Што-ж, уражанне атрымалася поўнае, а два галаўні, як заключаем мы пасля, — таксама рыба.

## ДА НАСТУПНАЙ СУСТРЭЧЫ!

Залатая восень. Цёпла і ціха. Я іду бясконцай дарогай паляўнічага, па хмызняках і па раллі, па лугах і па балоце, абыходжу яры, узгоркі, далінкі. Шукаю «шаракоў».

Дзень склаўся няўдала, — ужо за поўдзень, а я не «падняў» яшчэ ніводнага...

Таксама, як сотні нашага брата — паляўнічага, намагаюся ўспомніць, ці не пажадаў мне хто-небудзь удачы, ці не перайшла мне дарогу якая-небудзь цётка з пустымі вёдрамі? З гэтага боку усё, як быццам, у поўным парадку. Аднак, даволі нявесела...

Са стрэльбай за плячыма і з апошнімі рэшткамі надзеі ў душы іду па вытаптанай у верасах дарожцы.

І вось — на сцежцы ляжыць заячая скурка. Гладка і зусім распластана. Галоўка, хораша складзеныя доўгія вушы... Больш — ніякіх адзнак жывога цела пад скуркай.

— Хто-ж цябе, голубе, з'еў так чыста і скурку так роўненька разлажыў? — уголас кажу я і нахіляюся, каб пагладзіць рукою рэшткі беднага «шарака».

Усё астатняе адбываецца ў момант. Распластаная скурка ракетай узлятае з-пад маёй рукі ў трохчатырохметровым прыжку. Аднадзве секунды разгубленасці і... заяц выратаваны сваёй вытрымкай і маім здзіўленнем.

Ад «шарака» на сцежцы засталася авальная ямка, сагрэтая зайцам, нават з лінялымі валаскамі ягонай поўсці.

Стрэльба мая так і вісіць за плячыма. У гэтым выпадку застаецца адно, чым можна хоць трохі супакоіцца, — заяц быў чужы.

Да наступнай сустрэчы!



## Пчолы — матэматыкі

У 1823 годзе ўпершыню было зроблена апісанне так званых танцаў пчол, якія вярнуліся ў вулей з багатай здабычай. Было заўважана, што пчала — зборшчыца нектару, апынуўшыся ў вуллі, перадае пчолам-прыёмшчыцам сабраны з кветак нектар і... пускаецца ў танец. Заўважылі, што гэтая пчала-танцорка робіць у танцы невялікія кругі, якія то супадаюць з рухам гадзіннікавай стрэлкі, то бываюць адваротнымі гэтаму руху.

Танец пчол аказаўся своеасаблівай іх мовай, спосабам сігналізацыі, у аснове якога ляжыць вострае і дакладнае ўспрыняцце матэматычных фактараў. Пчолы-зборшчыцы, сярод якіх адбываецца танец, пачынаюць пераймаць рухі танцоркі і такім чынам успрымаюць яе ўказанні аб месцазнаходжанні ўзятка. Неўзабаве дзесяткі, сотні, а потым і тысячы пчол, якія ўспрынялі ўказанні першаадкрывальніцы багацця, ляцяць ва ўказаным ёю кірунку за ўзяткам.

Сігналізацыя танцам адбываецца, прыкладна, наступным чынам.

Указанне на неабходнасць неадкладнага вылету за ўзяткам на адлегласць 50 метраў і менш перадаецца паспешлівымі кругападобнымі рухамі. Пры аддаленні месца ўзятка ад вулля да 100 метраў і больш фігура танца ўскладняецца, становіцца падобнай да васьмёркі, закругленні якой аддзелены адно ад другога участкамі прабегаў па прамой. Прытым, прабягаючы па прамой, пчала робіць хуткія рухі вілянучага характару. Рытм танца, хуткасць бегу і колькасць вілянняў змяняюцца ў залежнасці ад адлегласці да месца ўзятка.

Пчолы ўвесь час трымаюць пад увагай палажэнне сонца адносна іх вулля і нібы вымяраюць вугал, які ўтвараецца двума лініямі: адной, накіраванай ад вулля да сонца, і другой — ад вулля да месца ўзятка. У выніку гэтых «трыганаметрычных вылічэнняў» змяняюцца пазіцыі танца.

Пранікненне ў таямніцы пчалінай сям'і стала магчымым дзякуючы стварэнню спецыяльных доследных вулляў са шклянымі сценкамі, складаным электратэхнічным абсталяваннем, з выкарыстаннем фота- і кіноапаратаў. Але самым важным сродкам пазнання ў руках даследчыкаў была, безумоўна, перадавая савецкая навука, свабодная ад ідэалістычных тлумачэнняў і ўсялякіх іншых памылковых і ненавуковых поглядаў на прыроду.

У нашай рэспубліцы рад пчалаводаў-вопытнікаў, біёлагаў прадаўжаюць работу па вывучэнню жыцця пчол. Даследаванні, што маюць велізарнае практычнае значэнне, вядзе мінчанін В. Янушэўскі, які нядаўна закончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя В. І. Леніна. Ім распрацавана арыгінальная канструкцыя доследнага вулля, прыстасаванага для даследавання цэлага шэрагу нявысветленых пытанняў.

**В. МУРАШКА.**



**В. Янушэўскі збірае доследны вулей уласнай канструкцыі.**

## Дом апранаецца па-новаму

Гэтай вясною адзін з лепшых муляроў Мінска А. М. Цяленчанка ў ліку невялікай групы будаўнікоў і архітэктараў наведаў Кіеў, каб навучыцца новых дамы апранаць па-новаму. Будаўнікі Кіева ў супрацоўніцтве з масквічамі стварылі новы тып адзення для каменных будынкаў — каляровыя керамічныя пліты, названыя імі «блокамі М-К».

Новы абліцовачны матэрыял валодае вялікімі перавагамі перад усімі сваімі папярэднікамі. Ён прыгожы, зручны ў прымяненні, надзвычай даўгавечны. На працягу ўсяго свайго доўгага жыцця фасад будынка, абліцованы блокамі М-К, не патрабуе ні афарбоўкі, ні догляду.

— Адным словам, мы з нецярплівасцю чакалі гэтых цудоўных блокаў! — газорацб будаўнікі аднаго з дамоў па Ленінскай вуліцы. — І тое, што якраз нам дарычлі ў Мінску асвоіць іх прымяненне — з'яўляецца нашым гонарам...

**Першыя сярод будаўнікоў Мінска майстры вонкавай аддзелкі будынкаў керамічнымі плітамі А. Цяленчанка (справа) і Н. Лісюк.**



# Малады майстар

Сярод шматмільённай арміі савецкіх шахматыстаў вельмі многа моладзі. Юным шахматыстам створаны ў нашай краіне ўсе ўмовы для развіцця свайго таленту, павышэння спартыўнага майстэрства.

Нядаўна на Міжнародным турніры ў Бухарэсце вялікага поспеху дабіўся шаснаццацігадовы ленінградскі школьнік Барыс Спаскі. Ён упершыню ўдзельнічаў у такім адказным спаборніцтве і падзяліў чацвертае — шостае месцы з гросмайстарамі І. Балеслаўскім і Л. Сабо. За гэты поспех яму прысвоена званне майстра спорту.

Барыс Спаскі ў дзевяць год ужо меў другі разрад па шахматах, а ў адзінаццаць год—першы. У 1948 годзе ён удзельнічаў у Мінску ва Усесаюзным пяршынстве ДСТ «Працоўныя рэзервы» і заняў першае месца.

У Бухарэсцкім турніры Б. Спаскі атрымаў спецыяльны прыз за лепшую партыю турніра, якую ён выйграў у чэмпіёна Нарвегіі О. Барда. Прыводзім заканчэнне гэтай партыі.

У пазіцыі, што на дыяграме, чорныя (Спаскі) сыгралі: 22...



Kf : d5! 23. cd Ca6 24. Фd1. (На спробу белых захаваць каня с2 ходам Фe4 чорныя адказалі-б f5!). 24... С : f1 25. С : f1 К : d5 26. Ф : d5 Л : c2 (У выніку камбінацыі чорныя атрымалі за дзве фігуры ладдзю і дзве пешкі). 27. Се3 Фе6! (Каб не даць белым часу для перагрупіроўкі фігур). 28. Фа8+Cf8 29. Cf2 Фb3 30. g5 Лс1 31. Kpg2 Фа3 32. Фd5 Ла1! (Пасля гэтага ходу белыя не могуць пазбегнуць размену ферзяў, а цяпер за праходныя пешкі чорных ім прыдзецца аддаць сланоў). 33. Kg4 Фа8 34. Сс4 Cg7 35. Ф : а8 Л : а8 36. Kf6+ С : f6 37. gf Ла3 38. Се1 b3 39. Са3 Ла2+40. Kpf3 Лс2, і Барда вымушаны быў здацца.

**В. ШЫЦІК.**

# Гадзіннік над горадам

Гэты гадзіннік звяртае на сябе ўвагу кожнага, каму здараецца быць на прывакзальнай плошчы Мінска. Ён умантыраваны ў зубчатую вежу новага, светлага шматпавярховага дома — аднаго з тых шматлікіх дамоў, якія пабудаваны пасля вайны і якімі можа ганарыцца беларуская сталіца.



**Гадзіннік на будынку прывакзальнай плошчы ў Мінску.**

Дыяметр цыферблата гадзінніка — больш чатырох метраў, механізм яго займае два пакоі.

І разам з тым ён сканструяваны надзвычай проста.

Можна назваць сказаць, што гадзіннік гэты — самая блізкая радня звычайных «ходзікаў». Рух стрэлкі тут таксама адбываецца пад уплывам свабодна падвешанага цяжару. Толькі шматпудовыя гіры не ланцужком злучаны з зубчатым колам, а падвешаны на сталёвым тросе. Трос праходзіць праз сістэму блокаў і замацаваны на барабане. Таксама, як гэта робіцца на звычайнай лябёдцы, механік, які наглядае за гадзіннікам, поўметровай рукаяткай прыводзіць барабан у рух, наматваючы на яго трос. Гіры пры гэтым падымаюцца ў самае верхняе становішча, і гадзіннік заведзены.

І вось ён ідзе. Павольна, зусім непрыкметна для вока, апускаюцца гіры. Таксама павольна раскручваецца трос з барабана. І ўжо зусім ясна чуецца знаёмае «цік-так»... «цік-так»... Круцяцца шасцяронкі, валікі... Доўгі валік таўшчынёй, прыкладна, з палец перадае рух ад механізма стрэлкам... А людзі на плошчы звяраюць свае гадзіннікі з гадзіннікам на вежы.

Усё ў парадку! Час правільны!

Але вось мінутная стрэлка набліжаецца да дванаццаці. За адну-дзве мінуты да цэлай гадзіны над плошчай чуваць лёгкі рытмічны шум, услед за якім гучаць меладычныя ўдары, якія адлічваюць час.

Уважлівае вока лёгка знойдзе на вежы побач з цыферблатам некалькі моцных радыёрэпрадуктараў, якіх шмат на вуліцах нашых гарадоў. Але не музыка, не чалавечы голас чутны з гэтых рупараў — яны перадаюць толькі бой гадзінніка. Як-жа гэта зроблена?

Побач са станінай асноўнага механізма вежавага гадзінніка знаходзіцца высокая драўляная скрынка — футляр ад звычайнага пакаёвага гадзінніка. Ад яго механізма пакінута толькі пружына для бою, малаточак і некалькі медных шурупаў. Тут-жа прымацаваны мікрафон. Аб далейшым здагадацца няцяжка. Апарат бою злучаны спецыяльным валікам з механізмам вежавага гадзінніка. Няхітры аўтамат у выглядзе дыска з двума выступамі двойчы на працягу кожнай гадзіны замыкае электрычныя кантакты. У гэтыя імгненні ўключаецца моцны радыёўсіліцель, які і перадае на плошчу ўсё, што «пачуе» тады мікрафон.

Мінае гадзіна за гадзінай, адны суткі змяняюцца другімі. Двухметровыя стрэлкі павольна праходзяць па кругу.

Зрэдку на вежу падымаецца механік. Ён бярэ поўметровую рукаятку, падкручвае барабан, змазвае часткі, якія труцца. Агледзеўшы ўсе валікі і шасцяронкі і любоўна памацаўшы халодную станіну механізма, малады чалавек зноў замыкае гэты пакой і спускаецца паверхам ніжэй. Тут у асобным пакоі ўстаноўлены ўсіліцель. Пераканаўшыся, што і тут ніякіх парушэнняў рэжыму няма, механік пакідае будынак. Вышаўшы на плошчу, ён яшчэ раз глядзіць на гадзіннік і, зверыўшы яго паказанні са сваім хронометрам, як і заўсёды, адзначае:

— Усё ў парадку! Час правільны!

**А. СІЎЦОЎ.**

**АДКАЗЫ НА КРАСВОРД,**

**змешчаны ў № 3 часопіса «Маладосць»**

**Па гарызанталі:** 1. Авіятар. 3. Кішлак. 4. Унікум. 6. Тангенс. 7. Сага. 8. Ліст. 10. Аер. 12. Такт. 13. Акно. 15. Аркада. 17. Рапарт. 20. Лаг. 22. Якар. 24. Брас. 26. Опера. 27. Брод. 29. Кіно. 31. Газ. 33. Літара. 36. Гектар. 39. Лава. 41. Арба. 43. Кок. 44. Мора. 45. Ліпа. 46. Нажоўка. 47. Адвага. 48. Дыспут. 49. Лактоза.

**Па вертыкалі:** 1. Актава. 2. Руслан. 3. Контур. 5. Мармур. 7. Сава. 9. Трап. 10. Атол. 11. Ранг. 12. Танк. 14. Орша. 15. Адмірал. 16. Каларыт. 18. Апанент. 19. Трактар. 21. Амега. 22. Ямб. 23. Род. 24. Бак. 25. Сто. 28. Рэал. 30. Нага. 31. Грак. 32. Знак. 34. Іголка. 35. Атам. 37. Кама. 38. Апатыт. 40. Аманал. 42. Балада.






На першай старонцы вокладкі: **Перадавік сацыялістычнага спаборніцтва будаўнікоў Мінска, машыніст вежавага крана комсамолец Уладзімір Тулейка.**
Фота А. Дзітлава.

На чацвертай старонцы вокладкі: **«Раніца на Нёмане».**
Фотаэцюд А. Дзітлава.

**Адказны рэдактар — Аляксей КУЛАКОЎСКІ.**

**Рэдакцыйная калегія: Янка БРЫЛЬ (нам. адказн. рэдактара), Юрый ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Вадзім ПОЗНЯК, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК.**

**«Молодость»**
На белорусском языке.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Газетна-журнальнае выдавецтва Белпаліграфвыдавецтва, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Адрас рэдакцыі: Падгорны зав., 2. Тэлефоны: адказнага рэдактара — 93-634, аддзела ілюстрацый—93-985.

АТ 03982. Здадзена ў набор 8. VI. 53 г. Падпісана да друку 29. VI. 53 г. Фармат паперы $70\times108^{1}/_{8}$. Друк. арк. 4. (У др. арк. 65.000 зн.) Вуч.-выд. арк. 7. Тыраж 20.000 экз. Заказ № 420.

Цана 2 руб.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.